К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 37 (299) 20 – 26 верасня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ
ДЫСКУТУЕ•ПРЭЗЕНТУЕ•РАЗВАЖАЕ




# БАБІНА ЛЕТА, альбо АСНОЎНЫ ІНСТЫНКТ



У афармленні паласы выкарыстаны фрагмент твора Вячаслава Захарынскага.

Што такое восень — ведаюць усе. А паспрабуйце растлумачыць, што такое бабіна лета. Толькі без пушкінскага радка! Адно я добра ведаю: бабіна лета мае час і нават прапіску. На ўсіх кантынентах жывуць жанчыны і лета існуе, а вось бабінага лета — няма. Толькі ў нас, славян, і толькі ў верасні можна адчуць і ўбачыць хараство развітальнага балю флоры і фауны.

У гэты час жорсткае і практычнае гарадское жыццё заганяе санлівых мух у рамы паміж шыбамі, а знакамітае восеньскае павуціннe месціцца па кутах двухпакаёвай (у лепшым выпадку) кватэры. Гэта амаль усё, што я, урбаністка, ведаю пра бабіна лета. Асобна хацелася б дадаць: менавіта ў верасні, пасля летняга адпачынку, пінжак майго мужа лепей выглядае на плячах старэйшага сына, а мой восеньскі абутак — бесперспектыўны па сваім дызайне ў вачах дачкі-падлетка.

Мяркуеце, толькі мяне пад восень заелі хатнія праблемы ці жаночыя хваробы? Напрыклад, мая самотная сяброўка атрымала ліст з Італіі, дзе яна пад асабістым нумарам 26846 у каталогах шлюбных агенцтваў друкуе свае дадзеныя і фотаздымак. Ліст быў напісаны на італьянскай мове, таму нават удзвюх мы не здолелі яго перакласці. А раптам гэта — лёс?! Віват, бабіна лета! Вось ён, знакаміты беларускі Рэнесанс напрыканцы XX стагоддзя, праўда, у маштабах адной асобы. І ў пэўны момант я нават стала шчасліваю за яе і за сябе, бо ў марах ужо ўявіла яе жыхаркай Рыміні з мыечным кухонным камбайнам і — для сябе — адыход на пенсію шэфа майго мужа. Але радасць была нядоўгай, бо... ліст пераклалі: італьянская фірма адмаўляе сяброўцы ў паслугах, таму што патрабаванні яе — з прэтэнзіяй і абсалютна невыканальныя для кліентаў.

Вядома, мая далікатная Светка не шукала сабе Феліні. Але ж эратаманаў і анемічных эстэтаў і на Беларусі хапае. Проста аднойчы яна была маладой і не звяртала ўвагі на "бабіны гады-лета"...

А ўвогуле, бабіна лета — гэта сонечны дзень, калі жанчыну з раніцы грэе тэлефонны званок альбо "ліст надзеі", а ўвечары — вялізны махровы халат мужа...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ФІЕСТА Ў БАЛГАРЫІ ДЫ ФІЯСКА КАМПАНІІ

Адпачынак у кожнага з нас — невялікая фіеста ў жыцці. І толькі цяпер мне стала зразумелым, што "фіесту" ствараюць журналісты на старонках сваіх перыядычных выданняў, рэкламуючы туры шматлікіх агенцтваў. Як вы заўважылі, на пачатку лета ў сталічнай прэсе мусіравалася адно пытанне: куды паехаць адпачыць. Прычым, з ледзь заўважнымі агітацыйнымі ноткамі, але з падрабязным раскладам базарных коштаў і апісаннем цудоўнай марской пены на берагах сонечнай Балгарыі. Нашаму чалавеку адразу стала ясна: Балгарыя — "кландайк" для ўладальніка грошай за адпачынак, якія ўвесь свет ведае як "зайчыкі". Тым больш, даўно мінуліся тыя часы, калі падчас адпачынку можна было ўбачыць "і Крым і Рым" або вярнуць пазыкі сваякам за набытае па чарзе аўто...

Сёння, мне здаецца, толькі ў адным Мінску турыстычных агенцтваў болей, чым кінакампаній у Індыі. І, вядома ж, усе яны класіфікуюцца згодна з настроем у грамадстве: працуюць для новых бедных беларусаў і для тых, у каго няма толькі самалёта, каб трапіць на Сейшэльскія астравы. А для астатніх — лецішча ці пуцёўкі з "сабеса". Дык вось, пагляд зіце на паласу газеты "Адпачынак і турызм" — аніводная турфірма ад "Алатана" да "Кіпрыянатур" не грэбуе Балгарыяй. Чаму? Выгадна. Зразумела, ніхто не збіраецца папракаць прыватныя ўстановы тым, што яны працуюць з плюсам для сябе.

Толькі, калі на базары заўсёды адзін застаецца ў дурнях — ці пакупнік, ці прадавец, то надта не хочацца быць ім за свае грошы раз на год. Бо на працягу года адчуваеш сябе столькі разоў тым самым, што на летніх вакацыях "шчэмішся" сваім белым целам на пляж, каб хоць там адчуць сябе роўным у еўрапейскай сям'і. Добра, гэта ўсё эмоцыі. Пойдзем далей.

У агенцтве "Серджан" вашаму карэспандэнту дэкларавалі пуцёўку ў Балгарыю за 315 умоўных адзінак (чытай даляраў ЗША) на 12 дзён. Прычым клеркі чамусьці грошы патрабавалі часткова: спачатку 175 даляраў ЗША за білет у абодва бакі (Мінск — Бургас — Мінск), а 100 даляраў ЗША турысты правозяць самі ў Балгарыю і толькі там разлічваюцца з прадстаўнікамі фірмы, якія сустракаюць і ўладкоўваюць іх у катэджах (чытай, пакой у прыватным жылым доме). І гэта не ўсё. 1 мільён 200 тыс. беларускіх рублёў вы павінны заплаціць за паслугі, якія называюцца медыцынскай страхоўкай і ваўчэрам. "Самаабслугоўванне" працягваецца далей.

У аэрапорце "Мінск-2" ніхто з прадстаўнікоў фірмы "Серджан" вас не сустракае. Турысты, як сляпыя кацяняты, натыкаюцца адзін на аднаго з адным і тым жа пытаннем: дзе знайсці прадстаўніка "той-сякой" фірмы. Справа ў тым, што, нават маючы білет на руках, вы не зможаце самастойна паляцець на казачны курорт, бо ваўчэры (дазвол на ўезд у краіну) прымае прадстаўнік турфірмы, якога трэба шукаць па ўсіх паверхах аэрапорта... Праз хвілін 40, пасля заканчэння рэгістрацыі стомленыя турысты пачынаюць групавацца каля высокай дзяўчыны, якая тлумачыць тым, хто ўжо згубіў надзею трапіць у "Эльдарада", абавязкі турыста. Заўважце, ані ў кога няма пуцёвак, дзе, згодна з палажэннем па прыватным бізнесе ў галіне турызму, чорным па беламу павінны быць растлумачаны абавязкі як турыста, так і турфірмы. Не, здаецца, нас прымаюць да гэтай пары за дзікіх, неадукаваных людзей, якім на пальцах па два разы трэба тлумачыць, як карыстацца, напрыклад, прыбіральняй. Далей — болей. Суправаджаць турыстаў ад беларускіх кампаній, як высветлілася, ніхто не збіраецца. Самі даляціце да Бургаса, дзе вас сустрэнуць з надпісамі на шыльдах. Дарэчы, і медыцынская страхоўка аніякіх гарантый, тым больш правоў, не дае. Калі, крый Божа, што здарыцца, за свае грошы лячыцеся. Толькі не забудзьцеся ўзяць у Балгарыі рахунак, каб потым прадставіць яго страхавой кампаніі. Лозунг "увечары — грошы, крэслы — раніцай" мезазойску наіўны. Малады хлопец з электроннай экіпіроўкай у стылі галівудскага баевіка, калупаючыся антэнаю ў вуху, супакойваў турыстаў: маўляў, не хвалюйцеся, без вас самалёт не паляціць, мая фірма фрахтуе гэты рэйс у кампаніі "Белавія". Адчуваеце?

Над нашым турыстам стаяць, акрамя агенцтваў — анёлаў-ахоўнікаў, яшчэ і тыя, хто купляе спецыяльна для іх чартэрныя рэйсы. Вось табе і структура, вось табе і базіс! Усё для турыста, і ўсё — паводле законаў! Толькі ніяк не ўцямлю, чаму па тым жа законе я не ў стане самастойна набыць квіток альбо ваўчэр у тую самую Балгарыю? Па-першае, ніколі няма квіткоў, бо няма...



***Гэта замалёўкі незаангажаваных турфірмамі журналістаў. Таму, вядома, гаворка пойдзе не пра хараство шматлікіх курортаў. "К" не аднойчы ўздымала пытанне на тэмы: "Культура сервісу", "Культура адпачынку"... Журналісты газеты шмат вандруюць па Еўропе па справах службы і вучобы, і мы з задавальненнем заўсёды знаёмім чытачоў з адмысловымі дарожнымі ўражаннямі.***

# НАІЎНЫЯ ІСПАНЦЫ І БІЗНЕСМЕНЫ З "БЕЛАВІЯ"

Мая старая знаёмая — не старая гадамі, але ж з таго самага "страчанага пакалення", што і я, трыццацігадовых, — з'ездзіла ў Іспанію. Не надта якое дзіва, і амаль кожны сёння мае такіх знаёмых, ці нават сам на ўласныя вочы здолеў пабачыць замежжа. І дакладна кожны ўжо чуў ахі і охі аб цудоўным там жыцці, кожнаму ўжо надакучылі параўнанні ўмоў. Але ж паміж охамі мая знаёмая, жанчына надзіва разумная і назіральная, адзначыла тое, што ні ў турыстычных буклетах не прачытаеш, ні ў "скрыні" не ўбачыш.

Ніжэй — амаль даслоўны (вядома ж, значна скарочаны) яе аповед, да яго толькі варта дадаць наступнае: Вольга (так завуць маю знаёмую) пару гадоў таму выцягнула шчаслівы квіточак у латарэі жыцця (ажанілася з вельмі прыстойным мужчынам) і цяпер увесь час знаходзіцца ў стане, блізкім да нірваны. Як вынік — матэрыяльны бок вандроўкі аказаўся ёй амаль незнаёмы.

— ...Муж вырашыў не карыстацца з паслугаў турыстычных агенцтваў, таму мы паехалі, як казалі раней, "дзікунамі", на сваю рызыку. З Мінску чартэрным рэйсам "Белавія" прыляцелі да Барселоны. Прыпыніліся ў гатэлі — не самым дарагім, але ў цэнтры, і ўсё неабходнае там было, нават фен "Філіпс" у ваннай і ... асобны тэлефон у прыбіральні. У першы дзень адразу кінулася ў вочы надзвычайная ветлівасць. Ранкам, спускаемся па лесвіцы ў фае, а ўсе, хто трапляюцца насустрач, з прыемнай усмешкай выклікаюць "Ola, ola!" Муж дзіўна на мяне касавурыцца і на поўным сур'ёзе пытаецца: "Адкуль яны цябе ведаюць?" Я і сама была ўражаная, ды хутка зразумела, што "Ola" па-іспанску — . проста прывітанне... Але ж сапраўды іспанцы ветлівыя да наіўнасці. Быў такі выпадак: мы сабраліся на канцэрт — вядома ж, Іглесіяса — але не ведалі, дзе купіць квіткі. Запыталіся ў першага сустрэчнага. Той не проста паказаў дарогу, а пайшоў з намі праз горад, хвілін дваццаць, давёў да месца і, пакуль мы разважалі, як з ім разлічыцца — нельга ж проста падзякаваць за такую паслугу, — павярнуўся, на развітанне паслаў нам паветраны пацалунак двзюма рукамі і знік у натоўпе...

За дваццаць дзён неяк прызвычаіліся жыць без праблем. Калі ехалі ў аэрапорт каб ляцець дадому, я казала мужу: "Можа, так і трэба жыць — без праблем?" Ён у адказ, паказваючы на самалёт з роднай эмблемай "Белавія", прамовіў: "Вось цяпер і пачнуцца праблемы!" Як у ваду глядзеў. Здавалася, мінулі ўжо ўсё — мытню, рэгістрацыю, выехалі на поле і тут высветлілася, што на рэйс прададзена білетаў на дваццаць больш, чым месцаў у самалёце. Зразумела, шум, гвалт! Адкуль што ўзялося — усе нашыя да болю знаёмыя саўковыя замарочкі. Адразу прапановы цягнуць жэрабя, каму заставацца, ці абраць аргкамітэт па даследаванні, чаму так адбылося, — і гэтак далей. Час ішоў, нічога не вырашалася, тады іспанцы прапанавалі добраахвотнікам ляцець у Маскву, на гэты рэйс былі вольныя месцы.

рэгулярных рэйсаў у манапалістычнай "Белавія" падчас летніх вакацый. Таму наш арганізаваны "тур" набыў рысы знакамітага фільма Чухрая "Балада пра салдата", герой якога ўсімі праўдамі-няпраўдамі мусіў трапіць на пабыўку да маці ў час Вялікай Айчыннай.

Затрымалі чарговы рэйс, як зазвычай, не на шмат — на 1 гадзіну 20 хвілін. "Гаспадар" рэйса ўладкоўваў дакументы чатырох турыстаў з Гродна, якіх чамусьці забыліся ўнесці ў агульны спіс тых, хто вылятае ў Балгарыю. А як жа інакш? Усё для турыста, бо менавіта ён спонсар усіх шматлікіх структур, што адчыняюць "шлагбаум" на адпачынак. Вядома, фірмы не зацікаўленыя ў стратах. Тым больш, такая дробязь — затрымаць самалёт на колькі гадзін! Зразумела, лепей кепска ехаць, чым добра ісці. Вось гродзенцы і праседзелі дзве гадзіны палёту на пластыкавых скрынях вытворчасці завода "Крыніца". На ўсе пытанні пасажыраў наконт спазнення "гаспадар" рэйса адказваў каротка, маўляў, не вашая турысцкая справа. А ў асобных выпадках раіў "пайсці ў пешаходны эратычны тур". Дарэчы, элементарнага прабачэння за спазненне ад кампаніі "Белавія" ніхто з пасажыраў не дачакаўся. І сапраўды, "не графья-с". Пасля ўзлёту самалёта-пенсіянера мая каляжанка з Расіі рытарычна запыталася: "Зачем нам, поручик, чужая земля?" Толькі ўсе пытанні і адказы на іх адразу адышлі ў падсвядомасць ці ў віртуальную рэальнасць. Шасі закрываліся з грукатам, моц якога можна было б вылічыць па шкале Рыхтэра. Уявіце сабе, што ў гэты момант яшчэ і падшыўка самалёта "адлятае" ў праход салона. За хвіліну ўзлёту ўзгадваецца ўсё пражытае жыццё, уключаючы адпачынак у маленстве з бацькамі на Нарачы. Затое пасадка прымушае запалоханага турыста марыць толькі пра прыбіральню. Далей — электарат турфірм вязуць на аўтобусах, камфортнасць якіх адпавядае кошту пуцёўкі, да месца дыслакацыі — мора, садавіны і турыстаў з СНД. Паскардзіцца наконт "зручнасцяў на вуліцы" няма каму. Чужая краіна, пуцёвак няма, медыцынская страхоўка — адзіная на ўсіх.

З вераю ў лепшы наступны дзень і пад музыку, што чуецца з рэстарацыі насупраць, вы засынаеце... Такім вось ён быў — першы дзень адпачынку з тых дванаццаці, сонечна-абяцаных... Шлях дадому той самы, толькі ў адваротным накірунку. І на гэты раз кампанія "Белавія" спазнілася на дзве гадзіны. Толькі аднойчы авіятурысты з нашага паверху былі шчаслівыя. Да нас далучылася яшчэ адна група нашых суайчыннікаў, што трапіла ў Балгарыю... аўтобусам. Вандроўка авіятурыстаў у параўнанні з трохдзённымі пакутамі аўтатурыстаў — казка!

Дзіўна, але чалавек, здаецца, "сам обманываться рад". І ўсё робіць дзеля гэтага. Мазахісты, далібог! Скажаце, выйсця няма? Гэта толькі пералёт нагадвае нашае жыццё: і на ваніты цягне, а выйсці няма куды і мусіш ляцець далей.

Існуе ж усё ж такі Міністэрства спорту і турызму, кампанія "Белавія", консульскія службы пры шматлікіх амбасадах у сталіцы Беларусі. Няўжо нельга наладзіць індывідуальныя туры для адпачываючых так, як гэта ўжо існуе ў Еўропе? Здаецца, быць еўрапейцамі і мець лад жыцця "як у Еўропе" — у нашай краіне рэчы неспалучальныя. Магчыма, мы па жыцці больш мазахісты, чым беларусы? Ды і сучасныя анекдоты даюць падставу для такой высновы.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

**P.S.** Анекдот да тэмы: — Спадар Пятро, кажуць, вы ўмееце лётаць?

— Так, толькі прызямляцца не навучыўся.

---

Зразумела, кампанія "Белавія" пасля абавязана будзе кампенсаваць выдаткі. Муж кажа: "Трэба ляцець, бо яны тут яшчэ ноч мітынгаваць будуць". І мы паляцелі, разам з іншымі сямю "добраахвотнікамі", з цяжкасцю "выбіўшы" ад жанчыны — адказнай за групу — па сто даляраў, бо білет з Масквы да Мінска цяпер столькі каштуе. У Маскве пераначавалі ў гатэлі, да якога без ваганняў ехалі ў таксі, нягледзячы на жудасныя маскоўскія расцэнкі. На наступны дзень прыляцелі, урэшце, у Мінск, і прад'явілі ўсе квіткі ў агенцтва "Белавія". Мала таго, дасведчаныя людзі з нашай "каманды" прыпомнілі і пра кампенсацыю маральных стратаў — так мы атрымалі яшчэ па 150 даляраў. Але самае цікавае ў гэтым падарожжы было тое, як мы ляцелі з Барселоны ў Маскву. Іспанцы, вядома ж, прапанавалі гэты варыянт, каб паправіць складаную сітуацыю, але не папярэджвалі прадстаўнікоў беларускай авіякампаніі, што вольныя месцы да Масквы — у "бізнес-класе", які даражэйшы за турыстычны ў два ці тры разы! За гэтыя дадатковыя грошы пасажырам належыць і дадатковы камфорт: напіткі вышэйшай якасці, падарункі — у нашым выпадку гэта былі французскія парфумы. Мы ж гэтым пакарысталіся, як кажуць, "на халяву". А на самой справе за ўсё потым плаціла "Белавія", разлічваючыся за сваю хцівасць і прагу да перавыканання планаў па продажы квіткоў.

Такі вось "падарожны бізнес па-беларуску" і "іспанская наіўнасць"!

**Ігар КЛОКАЎ**

---

***... Спачатку я ўбачыў вочы салдата-вартавога, што стаяў ля ўвахода да самага паважнага будынка беларускіх вайскоўцаў, ля штаба акругі, — у іх адбіваўся несуцяшальны сум, маркота вольнай некалі істоты, якая трапіла за краты і ведае, што цяпер воля для яе — недасягальная. (Такія вочы ў "братоў нашых меншых", на якіх ходзім глядзець у заапарк.) Я зірнуў у напрамку гэтага сумнага позірку — па процілеглым сонечным баку вуліцы рухалася дзяўчына, стройныя тонкія ножкі ў белых джынсах у абліпку, у белых жа басаножках на высачэзных па модзе абцасах вышывалі роўныя кароткія, нібыта дакладна разлічаныя крокі-сцяжкі па разбітым асфальце ходніка. Кароткая ж белая маечка не закрывала ўцягнуты жывоцік, валасы гладка сабраныя ў кароткі "конскі хвасток". Яна ішла адна па сонечным баку, гледзячы проста перад сабой, а на маім, цяністым, прахожых было шмат, і ўсе без выключэння — мужчыны і жанчыны, — выкручваючы шыі, глядзелі ёй услед. Пад нагамі суха шапацела першае жоўтае лісце, хоць сонца прыпякала нібыта ў ліпені. Я паглядзеў на паску далікатнай скуры над бела-празрыстымі джынсамі і падумаў: "Лета праходзіць..." І менавіта з гэтай думкай — дагнаць адыходзячае лета — паскорыў крок і апынуўся ля дзяўчыны.***

*Лірыка — і не толькі*

# ДЗЯЎЧЫНА Ў БЕЛЫМ НА СОНЕЧНЫМ БАКУ ВУЛІЦЫ



**— Як правялі лета?**

— Жудасна! Каб не палохаць людзей белай скурай, пачала нават хадзіць у салярый!

**— Было шмат працы? А выглядаеце на студэнтку...**

— Так, буду студэнткай — хутка. У інстытуце прадпрымальніцтва.

**— Прадпрымальніцтва — даволі нудны выбар як для прыгажуні! Уяўляю вас хутчэй на подыуме ці фотамадэлькай.**

— У мадэлькі — кароткі век, гэта несур'ёзна. Я іду вучыцца не на прадпрымальніка, а на перакладчыка, бо на "прадпрымальніка" ўжо вучылася ў тэхнікуме.

**— Ангельская — нямецкая?**

— Ангельская — дакладна, другую яшчэ не абрала, але хучэй за ўсё гэта будзе італьянская.

**— Адразу два пытанні: што гэта за тэхнікум, дзе вучаць на прадпрымальніка, і чаму італьянская, а не перспектыўная нямецкая ці прыгажэйшая ў свеце французская?**

— Нямецкую вывучала да гэтага часу — жудасная мова, ды і перспектыўнасць, пра якую вы кажаце, — у сувязі з аб'яднаннем Германіі — мне падаецца не надта пераканаўчай. Французская — куды з ёй потым? А з італьянскай я адразу змагу ехаць з турыстычнымі групамі ў туры перакладчыкам, гэта нават па праграме прадугледжана, з трэцяга курса.

Што да тэхнікума, то я скончыла архітэктурны па спецыяльнасці "камерцыйная дзейнасць". Пасля заканчэння змяніла хіба не дзесяць месцаў працы, але на кожным адчувала, што я нічога не ведаю, што тое, чаму мяне вучылі, — не патрэбнае! Працавала часцей сакратаркай, пакуль не зразумела — чым "напружвацца" за грашы, лепей не працаваць увогуле.

**— А жыць як — на бацькоўскія?**

— У бацькоў грошай не бяру ўжо шмат гадоў, нават наадварот. Ёсць людзі, якія ахвотна вырашаюць мае праблемы, прынамсі грашовыя.

**— Гэта як, — не зразумеў я, — жывяце на ўтрыманні мужчыны?**

— Мужчыны ці, дакладней, мужчын, — зусім не збянтэжылася мая суразмоўца, упершыню паглядзеўшы мне проста ў вочы. Да гэтага яна глядзела толькі перад сабой, высока трымаючы галаву. Збянтэжыўся, наадварот, я, але ўсё ж распытваў далей:

**— І хто гэтыя мужчыны?**

— Двое — банкіры, за сорак, двое іншых — "бандыты", таксама не хлапчукі. Не надта захапляюся равеснікамі, хаця сяброў маю і майго веку — і прадпрымальнікаў, і "бандытаў".

**— Як бавіце вольны час?**

— Па-першае, яго ў мяне не шмат, я і ўвогуле не люблю гультаяваць, сама шукаю справы. Апошнім часам шмат высілкаў спатрэбілася для аплаты навучання — дамовіцца з адным, каб ён даў палову грошай, дамовіцца з фірмай, каб аплаціла астатняе, усяго патрэбна 750 даляраў на год. У вольны час люблю чытаць. Цяпер — "Кірмаш фанабэрыі" Тэкерэя. Калі няма спраў, магу адпачыць з сябрамі.

**— З банкірамі ці з "бандытамі"?**

— Лічу за лепшае — з "бандытамі": яны прымаюць мяне такой, якая я ёсць, не стрымліваюць і не вучаць жыць.

**— І дзе адпачываюць "бандыты"?** — неасцярожна запытаўся я. І ўпершыню з пачатку размовы не атрымаў адказу. Між тым, гаворка, якую я распачаў як звычайную вулічную балбатню з незнаёмай субяседніцай, прыгожай дзяўчынай, якіх шмат, дзякуй богу, на нашай зямлі, якіх штодня з прыемнасцю бачыш на вуліцах, гэтая гаворка раптам падалася мне падобнай да "інтэрв'ю з пакаленнем". З тым пакаленнем, што падрасло за гады "перабудовы", чарнобыльскай навалы, "пост-перабудовы", пакуль мы, дарослыя, цярпліва і бессэнсоўна, бесперспектыўна боўталіся ў балоце жыццёвых цяжкасцяў, якое штодня пашыралася. У гэты самы час раслі нашы дзеці, глядзелі амерыканскія мультфільмы, з захапленнем паўтаралі тупаватыя рэкламныя тэксты, збіралі глянцавыя ўкладышы да гумак, вандравалі па замежжы — дзякуючы шматлікім дабрачынным акцыям і фондам. Яны выраслі, яны бачылі свет не толькі праз "скрыню", яны ведаюць, чаго сапраўды жадаюць і як гэтыя жаданні спраўдзіць. Яны ўспрымаюць свет, у які прыйшлі, такім, які ён ёсць, і па якіх законах ён існуе — па тых самых яны будуюць сваё жыццё. Ім не цікавыя абяцанкі пра светлую будучыню — яны жывуць і жадаюць жыць добра цяпер, зараз, у гэтую хвілю і лічаць, што для гэтага ўсе сродкі прыдатныя. Для іх "бандытызм" (ці іначай кажучы "рэкет") — такая ж самая паважаная форма бізнесу, як і банкаўская справа, схаваная прастытуцыя ці жыццё на ўтрыманні — цалкам годная разнавіднасць прыстойнага існавання, хаця і вымушаная. Для іх наркотыкі — не экзатычная з'ява заходняга спосабу жыцця, а зразумелая, мала што не заўсёды вартая перайманна, спроба часова адсланіцца ад цяжкасцяў жыцця свайго, нашага. Да адпачынку яны ставяцца так жа сур'ёзна, як і да працы, да знешняга выгляду — таксама. І ўрэшце, высока цэняць адукацыю — так высока, як гэта сёння каштуе.

Пакуль вялася гаворка, мы пабывалі на Камароўцы, дзе мая субяседніца мяняла даляры на рублі па рэальным курсе — на 15 працэнтаў вышэйшым, чым у банках. Потым зайшлі спраўдзіць расклад сеансаў у гарызонтаўскі камбінат здароўя — салярый і "гімнастыка для лянотных", вібрамасаж. Потым завярнулі ў "Ланком" — яна набыла там анціцэлюлітнае жэле "Рэфлекс мэн сёр" коштам з маю заработную плату за месяц (дзеля гэтага і мяняліся даляры). Выпілі "Спрайта" (перад гэтым яна дакладна высветліла, ці з халадзільніка напой, і запатрабавала аднаразовыя шклянкі). Развіталіся амаль там жа, дзе сустрэліся, на вуліцы Камуністычнай. Імя яе я нават не запытаўся, для мяне яна засталася дзяўчынай у белым на сонечным баку вуліцы са змрочнай назвай...

Дык што ж гэта за людзі, што паціху, але ўпэўнена ўваходзяць у жыццё на змену нам, "апошнім з магікан" камуністычнай эры? Яны іншыя — я зразумеў толькі гэта. І іх не палохае той свет, які мы ім пакідаем. І напэўна ж, яны не зробяць тых глупстваў і памылак, якія рабілі мы ў іхнім веку, наўрад ці іх прымусіш ісці пад барабан за новым правадыром якога-небудзь новага камуністычнага саюзу — яны проста засмяюцца ў твар. І я б не хацеў пачуць гэтага смеху.

**Ігар КЛОКАЎ**

МНОГАЕ Ў МАЛЫМ

# НАШЫМ НАРОДАМ ЁСЦЬ ШТО ПАКАЗАЦЬ

***Не так даўно жыхары нашай дзяржавы мелі магчымасць азнаёміцца з разнастайнай культурнай праграмай, падрыхтаванай калектывамі і выканаўцамі з Малдовы. А цяпер з 23 па 26 верасня нашыя творчыя калектывы і творцы прадэманструюць сваё майстэрства малдаванам. Пра гэта і іншыя культурныя праграмы мы гутарым з дырэктарам "Белдзяржканцэрта" Аляксандрам ЛІТВІНОВІЧАМ.***

**— Што плануецца паказаць Малдавіі?**

— Выязджаюць — ансамбль "Сябры" пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі, вакальна-інструментальны ансамбль пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Алега Цівунова. Са спектаклем "Крывавая Мэры" выпраўляецца група артыстаў Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Таксама едзе ансамбль салістаў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова. Затым — група салістаў тэатра оперы: Алена Гундзелева, Алег Мельнікаў, Марат Грыгорчык — яны прымуць удзел у оперы Чайкоўскага "Яўгеній Анегін". Адкрыццё Дзён культуры адбудзецца на цэнтральнай пляцоўцы ў Кішынёве 23 верасня. Ужо цяпер вядома, дзе будзе выступаць кожны ансамбль. Канцэрты адбудуцца не толькі ў Кішынёве, але і ў гарадах — Чымішлія, Бельцы, Кахул і ў вёсках Пеліван-Архей, Грыгор'еўка, Кэўшэнь. У складзе афіцыйнай дэлегацыі выязджае наш вядомы мастак Генадзь Буралкін. У Кішынёве пройдзе выстава беларускай графікі, ля мастацкіх прац выступіць ансамбль "Чысты голас". Таксама выязджае дуэт цымбалістаў Белдзяржфілармоніі — Таццяна Шумакова і Наталля Аруцюнава. Выступяць нашы арганісты. Дэлегацыю ўзначальвае міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі. Такім чынам, 21 верасня з Мінска ў Кішынёў адыходзіць цягнік са дзесяццю дзеячамі мастацтва нашай краіны.

**— Што, на ваш погляд, з'яўляецца самым неардынарным у беларускай праграме, якую пабачыць Малдова?**

— Мне падаецца, што вялікай з'явай будзе выступ артыстаў тэатра імя Янкі Купалы. Ды, наогул, у Малдову едуць вядучыя калектывы нашай краіны. Не абмінулі мы сваёй увагай і кінематаграфістаў. Рэжысёры Уладзімір Гасцюхін і акцёр Генадзь Шкуратаў вязуць стужкі "Батанічны сад" і "Бег ад смерці". У Малдове беларускае мастацтва будзе паказана ва ўсёй яго шматграннасці.

**— А што яшчэ цікавага мяркуеце правесці акрамя Дзён беларускай культуры ў Рэспубліцы Малдова?**

— У нас былі прадстаўнікі з Масквы. Магчыма, тут таксама атрымаецца насычаны абмен культурнымі праграмамі. Ужо вяліся перамовы аб правядзенні Дзён культуры Масквы ў Мінску. Абмяркоўваўся папярэдні склад удзельнікаў. У Ліпецку і Яраслаўлі з 2 па 5 кастрычніка пройдуць Дні Рэспублікі Беларусь. Туды паедуць ансамбль "Сябры", ансамбль пад кіраўніцтвам Алега Цівунова, ансамбль "Свята" і іншыя. Пасля вяртання з Ліпецка адбудзецца творчы вечар лаўрэата ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў Уладзіміра Радзівілава. З 10 па 12 кастрычніка з удзелам ансамбля "Сябры" пройдуць выступленні ў Таліне і Нарве. Потым з 5 па 16 лістапада мы праводзім гастролі Маскоўскага мастацкага тэатра імя Горкага на Беларусі. Яны прывязуць да нас шэсць спектакляў. Пасля гэтага ў нас вялікае мерапрыемства з нагоды юбілея — спаўняецца 50 гадоў народнаму артысту Анатолю Ярмоленку. Затым будуць праводзіцца буйныя мерапрыемствы, прысвечаныя Новаму году. У лістападзе мы плануем правесці гастролі творчай інтэлігенцыі па Мінскай, Гродзенскай і Брэсцкай абласцях — каля дзесяці канцэртаў у кожнай.

**— На днях беларуская дэлегацыя выехала на Кубу. Ёсць надзея, што і там пажадаюць абмяняцца днямі культуры?**

— Так. Безумоўна, нашым народам ёсць што паказаць. Культура кожнай краіны мае свае непаўторныя рысы. Не так даўно нашы творчыя калектывы выступалі ў Польшчы ў Беластоку. Сёлета ў лютым у Мурманску таксама праходзілі Дні Рэспублікі Беларусь. Нашы калектывы спявалі і танчылі на баявых караблях, у гарадах і раёнах Мурманскай вобласці. Ёсць серыя запрашэнняў на правядзенне Дзён культуры на Кубані. Існуе надзея на больш шчыльныя культурныя сувязі з Казахстанам.

**Зміцер ВОЛКАЎ**



*Калектыў "Культуры" шчыра віншуе народнага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага акадэмічнага рускага тэатра Барыса ЛУЦЭНКУ з 60-годдзем!*

# УЗНАГАРОДЫ ДЗЁН СПАДЧЫНЫ

З 1991 года Савет Еўропы пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза пачаў праводзіць Еўрапейскія Дні Спадчыны. У гэтыя дні кожны чалавек мае магчымасць наведаць помнікі і музеі, асабліва тыя, якія звычайна не даступныя для агульнай грамадскасці. У верасні 1996 года больш за пятнаццаць мільёнаў людзей пабачылі тры тысячы манументаў і гістарычных мясцін. Гэта гаворыць аб папулярнасці згаданых мерапрыемстваў. Штогод праводзяцца спаборніцтвы паміж краінамі за лепшую культурную дзейнасць, і пераможцы атрымліваюць шэсць прызоў (па 5000 экю кожны). "Узнагароды Дзён Спадчыны" былі створаны Саветам Еўропы, Еўрапейскім Саюзам і Фондам Караля Бадуіна.

Сёлета ў Еўрапейскіх Днях Спадчыны бяруць удзел каля сарака трох краін — гэта самая вялікая колькасць удзельнікаў у параўнанні з мінулымі гадамі. Асаблівая ўвага будзе скіравана на Боснію і Герцагавіну, бо там нядаўна была вайна. І Савет Еўропы, і Еўрапейскі Саюз непакоіць стан культурных каштоўнасцяў у гэтых дзяржавах.

На Беларусі таксама адбыліся Еўрапейскія Дні Спадчыны. Так, 13 верасня ў Івянецкім дзіцячым доме адбылося адкрыццё выставы дзіцячай творчасці. 13-14 верасня для навучэнцаў і студэнтаў былі праведзены экскурсіі (Мінск — Мір — Нясвіж, Магілёў — Шклоў, Наваградак — Шчорсы) пад агульным дэвізам "Навучымся бачыць, раскрыем вочы". Адбыліся прэм'еры стужак "Першая муза Нясвіжа" ў Нясвіжы і Міры. 13—15 верасня былі праведзены ў навучальных установах краіны тэматычныя кінавідэазаняткі і лекцыі "Спадчыны".

Савет Еўропы пастаянна стараецца паляпшаць веды народаў аб іншых культурах, абараняць культурную спадчыну, праслаўляць усе культуры, спрыяць "адкрытаму і свабоднаму" погляду на культуры.

Дырэктар Адукацыі, Культуры і Спорту ў Савеце Еўропы Раймонд Вэбер напісаў: "Мы асабліва рады, што гэтыя Еўрапейскія Дні маюць вялікі поспех сярод маладых людзей. Гэтыя Дні аб'ядноўваюць дзеянні, якія наша арганізацыя ажыццяўляла на працягу гадоў праз "Еўрапейскія Класы Спадчыны". Сёння вы можаце спытаць, ці павінны мы адкрываць Еўрапейскія Дні Спадчыны для нееўрапейскіх дзяржаў, такіх як краіны Паўночнай Амерыкі ці Міжземнага мора? А чаму ж і не? Асноўная функцыя культурнай спадчыны заключаецца ў адкрыцці яе для знешняга свету, устанаўленні сувязяў паміж рознымі культурамі і стварэнні мастоў праз геаграфічныя межы".

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# БУДЗЕ ГУЧАЦЬ ТОЛЬКІ БЛЮЗ

"Блюз жыве ў Мінску!" Пад гэткім дэвізам на Беларусі праводзіцца II беларускі фестываль блюз-рока. Арганізаваў свята "Star club". Як паведаміў на прэс-канферэнцыі прэзідэнт блюзавага клуба Генадзь Старыкаў, фестываль ладзіцца з мэтай пошуку новых талентаў. Наведнікі пачуюць музыку — "Троіцы", Аляксея Шадзько, "Вольгі & Co.", "Калі-Югі", "Thank you Jesus" (усе Мінск), групы Ю.Бенядзіктава (Гродна), "Вакзала" (Віцебск) і іншых. Між іншым фанаў блюза чакае сюрпрыз — выступленне Аляксандра Растапчына, які спецыяльна з гэтай мэтай прыехаў аж з самога Нью-Ёрка. Сярод іншых будзе выступаць гурт "At Last" (Гомель), гэта самыя маладыя ўдзельнікі музычнай тусоўкі. Музыкам гэтай каманды толькі і... семнаццаць гадоў.

Фестываль пачынаецца 20 верасня ў кінатэатры "Масква" а 15-й гадзіне.

Блюзавая арганізацыя "Star club" мае намер выводзіць беларускіх музыкаў на міжнародную арэну, бо час даўно наспеў. А яшчэ "Star club" збіраецца запрапанаваць Белтэлерадыёкампаніі стварыць праграму, дзе будзе распавядацца ўсё пра блюз і дзе будзе гучаць толькі блюз.

**З.В.**

***Да ўвагі чытачоў!** Наступны нумар "Культуры" (спецвыпуск) выйдзе 30 верасня.*

# ЁН ЛЮБІЎ УСЕ ПОРЫ ГОДА...

Анатоль Ткачонак...

Шмат гадоў я ведаў гэтага мастака. Найсціплейшы чалавек, вельмі камунікабельны, ён ніколі не імкнуўся ў першыя шэрагі "вядучых", быў у баку ад усялякіх грамадскіх даручэнняў, не сунуўся ў кіруючыя органы Саюза мастакоў.



*А.Ткачонак. "Восень".*

Усё жыццё пісаў "ціхія", лірычныя акварэлі і гуашы, іншы раз "індустрыяльныя" пейзажы, шмат маляваў, спрабаваў займацца жывапісам. Абагаўляў сваю радзіму — Віцебшчыну, часта ўзгадваў сваё нялёгкае даваеннае юнацтва, вучобу ў Віцебскай мастацкай вучэльні, сустрэчы з Ю.Пэнам, Л.Лейтманам, В.Дзежыцам, лічачы іх сваімі духоўнымі настаўнікамі.

У сакавіку яму споўнілася б 75, але да свайго юбілею ён троху не дажыў. Не дажыў і да сваёй персанальнай выставы, якая — ужо без яго — адкрылася на гэтым тыдні ў Палацы мастацтва.

Акварэлі Анатоля Ткачонка — гэта ягоны аўтапартрэт, працяты шчымлівым пачуццём любові да прыроды, цёплым, кранальным стаўленнем да людзей зямлі, да гістарычнай памяці. Ён любіў усе поры года і ўсе мелодыі дня: ад туманнага світанку ля возера да гарачых воблакаў над жытнёвым полем, ад дажджлівай навальніцы да жнівеньскіх буднаў на таку, і калі пісаў свае матывы, для яго галоўным было знайсці настрой...

Так і ўвайшоў у беларускае акварэльнае мастацтва Анатоль Ткачонак — паэтам настрою, паэтам стану. І за гэта яму дзякуй.

**Б.К.**

# МІФЫ І ЛЕГЕНДЫ

Ёсць мастакі, якія здольныя гіпнатызаваць. Адзін з гэтай кагорты чарадзеяў фарбы і пэндзля — Ігар Каплуновіч. У сваіх мастацкіх працах ён распальвае вогнішча з эмоцый, вобразаў, міфаў. Наведнікам ягоных выставаў наканавана стаць вечнымі прыхільнікамі жывапісу. Да прыкладу, мае ўражанні ад выставы "Міфы Ігара Каплуновіча", якую праводзіла галерэя "Брама", пацікху перайшлі ў хранічную хваробу — устойлівую залежнасць ад мастацкага мыслення Каплуновіча. Тут ёсць, канечне, пэўная небяспека, бо даўно вядома, што любая наркатычная залежнасць вельмі шкодная для арганізма. Але, пэўна, гэта лепей за ўжыванне алкаголю ці гераіну. Таму лічу, што ў крамах, асабліва ў віна-гарэлачных, трэба зрабіць аддзел па продажы ўсяляякіх мастацкіх рэчаў, да якіх прыклаў сваю руку спадар К. Няблага было б падобныя аддзелы зрабіць і ў кнігарнях. Ды што казаць! У школках, садках, на заводах і ў цырульнях можна разгарнуць сетку аддзелаў па замацаванні каплуновічанізму. Аматарам філатэліі можна загадаць зрабіць маўзалей, дзе будуць выстаўлены ўсе творы з серыі "Маркі". Забальзамiраваныя "кардыналы" і "коткі кардынала" будуць шмат стагоддзяў цешыць сваёй прыгажосцю фанатаў экзотыкі. Хворым ад бяссонніцы можна запрапанаваць універсальныя лекі пад назвай "Сонца тых, хто не спіць", бо яны ўздзейнічаюць на чалавека ці як цудоўнае снатворнае, ці як сродак супраць сну. Для аматараў свецкіх плётак трэба стварыць салон пад назвай — "Жонкі цыркачоў". Тут свой прытулак адшукалі б экстравагантныя творы — "Жонка атлета", "Жонка дрэсіроўшчыка", "Жонка фокусніка". І на адкрыццё салона трэба абавязкова запрасіць тых намаляваных шчаслівцаў і самога маляўнічага, каб стварыць тут пасля галерэю "Баксёры". А калі эстэтычна-наркатычная дзейнасць І.К. будзе прызнана шкоднай для шырокіх працоўных масаў, то згаданага вышэй злачынцу можна выслаць за межы Беларусі. Напрыклад, у Папуа Новую Гвінею да тамтэйшага чарадзея Барнабаса.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота А.ЕЛІСЕЕВА**



І.Каплуновіч. "Мудрацы Цфата". 1995.

# ЯК НА НАШАЙ НІЎЦЫ СЁННЯ ДАЖЫНКІ



Супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах традыцыйнай талакой правялі абрад заканчэння жніва. Жанчыны ўбраліся ў строі, павязалі галовы белымі хусткамі. Адны неслі на плячах сярпы, а другія — торбачкі з ежай і глечыкі з квасам. Збіраліся ля загона, дзе ў адным месцы пакінуты лапічак лепшага жыта, і спявалі: "Як на нашай ніўцы сёння дажынкі"...

Некалькі жнеек дажыналі апошняе жыта, але апошні кусцік жытніх каласоў, так званую "бараду", перавязвалі чырвонымі стужкамі. Пад кусцікам "барады" вырывалі пустазелле, палівалі вадой, паміж калоссямі сцялілі белую палатняную хусціну і клалі на яе хлеб з соллю, завязаныя каласы заламвалі да зямлі. Завязванне апошніх каласоў, па старых павер'ях, перашкаджала магічнаму пераманьванню на іншае поле.

З маладых дзяўчат выбіралі "Багіню". Для яе сплялі вялікі вянок з жытніх каласоў, аздобілі яго кветкамі, стужкамі пад песню фальклорнага гурта "Дзяніца", які вось ужо колькі гадоў дапамагае супрацоўнікам музея праводзіць традыцыйныя нацыянальныя святы. Пад дробным дожджычкам і парывістым ветрам зазвінела песня: "Канец ніўцы, канец!..", пад якую каранавалі "Багіню". У рукі ёй аддалі апошні дажывачны сноп.

Дажынкі закончыліся вясёлай бяседай з музыкай і песнямі, якімі кіравала "Багіня". На багатай вячэры знайшлося месца ўсім, хто прыйшоў усплавіць апошні сноп новага ўраджаю.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ,**
**старэйшы навуковы супрацоўнік музея народнай архітэктуры і побыту.**
**Фота Уладзіміра САПАГОВА**

# ЛЕПШАЯ СЯБРОЎКА — РОДНАЕ СЛОЎКА

Бібліятэка № 11 г.Гомеля па праве лічыцца культурна-духоўным цэнтрам імя Кірылы Тураўскага. Тут дзейнічае праваслаўная нядзельная школка, ладзяцца цікавыя сустрэчы з мясцовымі літаратарамі, мастакамі, бардамі, удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны.

Вось і да Дня беларускага пісьменства і друку культурная ўстанова падрыхтавала змястоўныя выставы-агляды: "Шануй дзядоў, гісторыю і мову", "Мова! Ты свецішся словам кожным" і іншыя. Кожны меў магчымасць пазнаёміцца з творамі пра вялікіх беларускіх асветнікаў, якія ўзбагачалі культурныя набыткі нашай Айчыны.

Напярэдадні свята бібліятэка арганізавала і правяла ўрачыстае мерапрыемства, якое прайшло пад агульнай назвай: "Я роднае мовы не кіну ў нядолі!.." Бібліятэкары — Алена Уладзіміраўна Гаўрылава, Лілія Юр'еўна Утоўка і вучаніцы сярэдняй школы № 6 Света Сталоўнік, Аня Уварава, Вольга Гвардоўская, прыбраўшыся ў нацыянальныя касцюмы, прачыталі вершы на роднай мове.

Цёплымі апладысментамі віталі вучні СШ № 17 і СШ № 47 вучаніцу адзінаццатага класа сярэдняй школы № 17 Алесю Максімаву. Акампануючы сабе на гітары, Алеся праспявала некалькі мілагучных беларускіх песень. А дапамагала дзяўчыне яе настаўніца Алена Аляксандраўна Коласава.

Цёпла віталі таксама вучні гомельскую журналістку і паэтку Ганну Атрошчанка, якая прачытала свае новыя вершы, расказала пра творчую дзейнасць.

**Антаніна УВАРАВА**

# РАСІЙСКАЯ КУЛЬТУРА Ў ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

***Культурны патэнцыял дзяржавы пераказаць моваю лічбаў наўрад ці магчыма. Аднак і культура мае сваё "люстэрка" статыстыкі і, як прыгожая паненка, раз-пораз зазірае ў яго. Праўда, апошнім часам яе настрой ад гэтага часцей за ўсё псуецца: хочацца прыбрацца ў новую сукенку, а грошай на абнову няма. Падобны "настрой" у сённяшняй расійскай культуры, становішча якой за апошнія два гады пагоршылася катастрафічна. Факты і лічбы, прыведзеныя ў гэтым дакуменце, гавораць самі за сябе.***

■

Выдаткі на культуру з федэральнага бюджэту скараціліся ў 1995 годзе на 18 працэнтаў, у мінулым — яшчэ на 56 працэнтаў.

■

Выкананне дзяржаўнага бюджэту па сферы культуры ў 1995 годзе склала 64,3 працэнта, у 1996-м — 28,5 працэнта ад зацверджаных лічбаў. Запазычанасць дзяржавы ў мінулым годзе дасягнула 1,8 трлн. рублёў.

■

З прычыны недастатковага бюджэтнага фінансавання большасць арганізацый культуры, у тым ліку і аднесеных да асаблівa каштоўных аб'ектаў культурнай спадчыны Расіі, апынуліся ў надзвычай цяжкім становішчы. Не менш як палова нерухомых помнікаў расійскай культуры знаходзіцца ў аварыйным стане, каля 15 тысяч пабудоў могуць быць увогуле страчаны ў бліжэйшыя 10 гадоў.

■

Амаль спынена работа па папаўненні музейных збораў творамі апошніх гадоў. Па-за дзяржаўным музейным фондам, у шэрагу выпадкаў ужо назаўсёды, засталіся шэдэўры рускага мастацтва, набыць якія ў мінулым годзе не змаглі ні самі музеі, ні Міністэрства культуры.

■

Склалася крытычная сітуацыя па найважнейшых напрамках дзейнасці бібліятэк. Найбольш вострыя праблемы — захоўвання бібліятэчных фондаў і папаўнення іх новымі выданнямі. Каля 90 працэнтаў кніг, якія выдаюцца сёння ў Расіі, на тэрыторыі многіх рэгіёнаў не знойдзеш нават у адным экземпляры. Рэзка паменшыліся паступленні замежнай навуковай і сацыяльна-значнай літаратуры.

■

Сумнай з'явай стала эміграцыя лепшых прадстаўнікоў расійскай культуры. Ад'язджаюць з Расіі мастакі і паэты, вакалісты і танцоўшчыкі, музыканты сусветнага ўзроўню (Шнітке, Раждзественскі, Крэмер, Крайнеў, Кісін, Хварастоўскі і іншыя).

■

Назіраецца спад культурнай актыўнасці насельніцтва. За апошнія пяць гадоў стала менш наведнікаў на канцэртах (амаль на 60 працэнтаў), у тэатрах (на 38 працэнтаў), у музеях (на 27 працэнтаў).

■

Па ўзроўні дзяржаўнай падтрымкі культуры Расія 90-х гадоў значна адстае ад большасці развітых краін. Напрыклад, доля затрат на культуру ў агульных дзяржаўных выдатках складае (у працэнтах): у Швецыі — 4,83, у Ісландыі — 4,65, у Даніі — 3,96, у Нарвегіі і Фінляндыі — 3,58, у Францыі — 3,16, у Бельгіі — 2,52, у Германіі — 2,51, а ў Расіі — толькі 1,03 працэнта.

■

У Расіі адзін з самых нізкіх узроўняў забяспечанасці насельніцтва тэатрамі — 3,2 тэатра ў разліку на 1 млн. жыхароў. У Аўстрыі ж гэты паказчык складае 24, у Швецыі — 13,6, у Францыі — 9,3, у Вялікабрытаніі — 8,9, Японіі — 8,7, у Італіі — 5,9.

Прыкладна такая ж сітуацыя з забяспечанасцю музеямі: у Расіі — 11,6 музея на 1 млн. жыхароў, а ў Нідэрландах — 35, у Швецыі — 34,1, у Чэхіі — 33,6, у Германіі — 32, у Францыі — 29, у Італіі — 20, у Японіі — 15.

■

Па многіх паказчыках культурнага развіцця адстае і расійская сталіца. Забяспечанасць музеямі, тэатрамі, канцэртнымі заламі, бібліятэкамі ў Маскве значна ніжэй, чым у Вене, Лондане, Парыжы і іншых еўрапейскіх сталіцах. У Маскве на 1 млн. жыхароў — 8 музеяў, у Рыме — 36, у Парыжы — 39, у Лондане — 41. На 1 млн. масквічоў — 20 тэатраў, а на 1 млн. венцаў — 63.

■

Заработная плата ў сферы культуры складае толькі 62 працэнты ад сярэднерасійскага ўзроўню. Яна ў 3,8 раза ніжэй, чым у паліўнай прамысловасці, у 3,4 раза ніжэй, чым у фінансавым сектары, у 3,3 раза ніжэй, чым у электраэнергетыцы.

***Ад аўтара.*** *Рыхтуючы гэты матэрыял, я ставіў перад сабой толькі адну мэту: нагадаць чытачам, што і беларуская культура мае сваё "люстэрка" статыстыкі, што і яна вельмі прыгожая "паненка", што і ёй хочацца як мага часцей прымерваць новыя "сукенкі".*

*Культуры-суседкі — беларуская і расійская — любяць хадзіць адна да адной у госці. Вядома ж, у абновах.*

*Дык, можа, і "люстэркі" варта паставіць побач?*

*Што да расійскай культуры, то грошы на яе новыя "ўборы" шукаюць, збіраюць ва ўсіх кутках краіны — ад Мурманска да Сахаліна.*

**Іван КАРЭНДА,**
**спецыяльна для "Культуры".**
*Масква*

№ 37 20 — 26 верасня 1997.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!



**Ад рэдакцыі:**

Размовы пра стан і праблемы беларускай мастацкай крытыкі даўно сціхлі. Асабліва ў параўнанні з тым, што ў часы "застою" такія дыскусіі ажыўлена вяліся на старонках рэспубліканскага друку і ў асяродку мастацкай грамадскасці. Тады шмат разоў казалася пра творчыя праблемы ў працы крытыка: пра крытэрыі ацэнкі, метады аналізу, грамадскую эфектыўнасць працы крытыка.

Казалася пра пытанні арганізацыйныя, звязаныя з рэальным становішчам крытыка ў сістэме Саюза мастакоў у тым плане, што мастацкая крытыка заўсёды была рэгулятарам творчага працэсу.

Што ж сёння адбываецца з прафесійнай крытыкай? І ці ёсць яна наогул? Можа, яна ўжо вычарпала свае магчымасці?

Публікуючы развагі старшыні секцыі крытыкі і мастацтвазнаўства Беларускага Саюза мастакоў Барыса КРЭПАКА, рэдакцыя спадзяецца, што крытыкі і мастакі, іншыя дзеячы культуры выкажуць свае меркаванні пра тое, як падысці да асэнсавання гэтай істотнай для нашага часу задачы.

# ЦІ ПАТРЭБНА СЁННЯ МАСТАЦКАЯ КРЫТЫКА?

Крытыкі, зазвычай, кепска выглядаюць, нават калі ў гальштуках. Я маю на ўвазе колер твару. Зазірніце калі-небудзь у залу, дзе сябры творчай секцыі мастацтвазнаўцаў і крытыкаў нешта абмяркоўваюць, і вы пераканаецеся, які ў большасці сваёй гэта знясілены, хворы народ.

І дзіўна: яны не поўзаюць па пыльных будоўлях, як манументалісты, не ядуць хлеб, запэцканы алейнай фарбай; не дыхаюць атрутнымі кіслотамі, як афартысты; не ўзнімаюць пуды гіпсу і каменняў, як скульптары. Яны, крытыкі, нават не вымушаны праседжваць цэлымі днямі ў задушлівых архівах і бібліятэках, як іхнія калегі — гісторыкі мастацтва і музейшчыкі.

Занятак іхні, здавалася б, куды больш здаровы — наведваць вернісажы і майстэрні, удзельнічаць у абмеркаваннях, а потым хадзіць па рэдакцыях, імкнучыся "ўладкаваць" артыкул, — гэта значыць, зноў-такі — на свежым паветры.

І ўсё ж, не трэба быць вопытным тэрапеўтам, каб з першага позірку вызначыць, што праца мастацкага крытыка звязана з нейкім, невядомым пакуль навуцы прафесійным захворваннем.



Такім чынам, калі б які-небудзь спецыяліст зацікавіўся, нарэшце, людзьмі гэтай сціплай прафесіі — хай не дзеля яе, а дзеля навукі, — дык ён, верагодна, адразу ж паставіў бы некалькі элементарных пытанняў: "Ці атрымліваеце вы задавальненне ад працы? Ці прытрымліваецеся здаровага рэжыму? Ці пазбягаеце стрэсавых сітуацый?" І каб пастаяннае "не" не падалося занадта ўжо фармальным, я зараз паспрабую караценька распавесці, як гэта звычайна ў крытыка адбываецца, а вы ўжо паспрабуйце, калі ласка, знайсці спецыяліста, які, не мяняючы прычын, дапамог бы адолець наступствы...

Пачнем з агульнавядомага: калі сёння дзе-небудзь вымаўляецца меркаванне пра крытыку, дык усё зводзіцца, звычайна, да аднаго — не тая цяпер крытыка. Дзе Стасаў? Дзе Эфрас? Дзе Тугендхольд? Дзе Шчакаціхін? Дзе, урэшце, Фёдараў-Давыдаў альбо Каменскі? Пры гэтым ніхто, аднак, не пытаецца: а ці здолеў бы кожны з вышэй памянёных крытыкаў, калі б ён займаўся сёння выключна крытыкай, фізічна існаваць?

Я маю на ўвазе не цяжкасці, звязаныя з нецярпімасцю тых, каго крытыкуюць, — а штосьці зусім элементарнае, тое, што часткова меў на ўвазе стыхійны матэрыяліст Казьма Пруткоў, калі раіў: "глядзі ў корань!" А корань існавання сягае, як вядома, у вытворчыя стасункі, у формы аплаты працы альбо, калі ўжо гутарка ідзе пра крытыка, — пра гучнае і фатальнае паняцце "ганарар".

Хто ж ён такі, гэты шкодны крытык? За што яму, уласна кажучы, плаціць? Пасады такой нідзе няма. Праца па дамоўленасці, працы, у сувязі з чым ён і ўваходзіць у склад арганізацыі, якая, строга кажучы, павінна была б мець назву "Саюз мастакоў і мастацкіх крытыкаў". Аднак, недакладнасць у назве паказальная: калі пра мастакоў Саюз клапаціўся і сёння па магчымасці клапоціцца, падтрымліваючы іх як прафесійных творцаў, дык аніякіх формаў матэрыяльнай і маральнай падтрымкі крытычнай і мастацтвазнаўчай дзейнасці гэтая арганізацыя не прадугледжвала і раней, і тым больш цяпер.

Аплачваюць творы крытыка не Саюз, не Міністэрства культуры, як гэта было з мастакамі, а газеты і часопісы. Крытычны артыкул — гэта, зазвычай, палова "аўтарскага аркуша", значыць, 12 друкаваных старонак. Аплата залежыць ад выдання, камерцыйнага альбо дзяржаўнага: але ў сярэднім — дзесьці ў межах 500 тысяч — 1 мільёна рублёў.

Такі элементарны разлік. Каб стварыць крытычны тэкст у гэтым памеры, трэба працаваць, прынамсі, месяц. Сюды ўваходзяць наведванне выставаў і майстэрняў, праца ў бібліятэках, здабыванне ілюстрацый і, нарэшце, уласна сядзенне за сталом. Але калі б на гэтым усё скончвалася! Бо менавіта ў гэтым і ёсць спецыфіка сапраўды крытычнай дзейнасці, што стварэнне артыкула — толькі, так бы мовіць, самы пачатак творчых пакут.

Прасоўванне вострага матэрыялу ў друк — гэта скрыгат зубоўны. Цяпер такія артыкулы наогул не друкуюць. Нават бяскрыўднае інтэрв'ю, дзе мастак выказвае якое-небудзь асабістае меркаванне, што не "ўпісваецца ў кантэкст" рэдакцыі, можа праляжаць у рэдактарскім стале год ці паўтара, але так і не пабачыць свету. Састарэе...

І раней было складана: нажніцы рэдактара, пярэчанні рэцэнзентаў, баязлівасць добразычліўцаў, кароткія тэрміны для выпраўлення... Ну, калі ўжо артыкул і выходзіў, дык наступствы гэтага бывалі непрадказальнымі. Абапіраюся на асабісты вопыт. Аднойчы пяцёра мастакоў за крытычныя заўвагі ў іхні адрас наконт твораў з выставы "Міншчына ардэнаносная" напісалі скаргу ў ЦК КПБ, а затым, не атрымаўшы там падтрымкі, падалі ў суд на мяне і галоўнага рэдактара "ЛіМа" Алеся Жука, які надрукаваў мой матэрыял.

Так, здаралася і такое...

Карацей, як жартаваў Віктар Шклоўскі, нам плацілі грошы не за працу, а за цяжкасці, з якімі мы іх атрымлівалі...

А колькі крытык можа напісаць за год крытычных артыкулаў, нават пры ўмове іхняй публікацыі? У лепшым выпадку, 3 — 4 артыкулы — мяркую таксама паводле свайго вопыту. Натуральна, гэта не прынясе яму неабходных сродкаў да існавання, але затое створыць безліч нядобразычліўцаў...

Аднак, паўтаруся, такія артыкулы практычна сёння не публікуюцца, формаў кантрактацыі крытыкаў праз Саюз мастакоў стварыць не атрымалася (хаця такія спробы і былі). А навуковых устаноў, што былі б зацікаўлены ў сістэматызацыі крытычных даследаванняў, на жаль, у нас няма.

Нават адзіны прафесійны часопіс "Мастацтва" і той, у асноўным, перайшоў на асэнсаванне гісторыі беларускага мастацтва, на творчыя партрэты і рэцэнзіі выставаў.

Вось такі пейзаж, шаноўныя калегі, браты-мастакі і панове арганізатары мастацкага працэсу! Такім чынам, калі б і з'явіўся да нас, у секцыю крытыкаў, раптоўна новы Стасаў альбо Шчакаціхін — дык што з таго? Нават калі новы талент і будзе апазнаны па колеры твару, ніякай асаблівай цікавасці з боку творчага саюза не будзе, а адным пісаннем артыкульчыкаў і рэцэнзій для перыёдыкі на харчы не заробіш.

Але, прабачце, папытаецца цікаўны чытач, хіба не існуе іншых формаў прыкладання крытычных сіл? Існуюць жа каталогі, альбомы, ёсць, нарэшце, жывыя формы працы з мастакамі і гледачамі: наладжванне выстаў і іхняе абмеркаванне, прапаганда мастацтва і г.д.? Хіба не? Не, — з горыччу адкажу я. Раней былі — цяпер няма. Каталогі амаль не выдаюцца, кнігі пра мастацтва — тым больш (я не бяру да ўвагі камерцыйныя, "спонсарскія" альбомы-каталогі, што выходзяць па сваіх, спецыфічных законах); "жывыя" формы стасункаў крытыка з гледачом і мастаком — таксама адсутнічаюць, абмеркаванні выстаў і нават экскурсіі ўжо даўно не праводзяцца... І гэтак далей, і гэтак далей..

На сёння ў маёй творчай секцыі — трыццаць чалавек. Гэта прафесіяналы, сябры Саюза. Сярод іх ёсць кандыдаты мастацтвазнаўства, прафесары, дацэнты, нават лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі. А колькі з іх займаюцца рэгулярна крытыкай сучаснага беларускага мастацтва? Вось і я кажу... Так, так, дайце веры, практычна аніводнага! Людзі памяркоўныя, паважаныя — гісторыкі мастацтва, дзяржаўныя служачыя, педагогі, музейныя супрацоўнікі, трэцяя частка — пенсіянеры... Ніхто з іх ужо не шукае авантураў на моцна перасечанай мясцовасці сучаснай творчасці, хаця шмат хто з іх пачыналі як адораныя крытыкі, мелі адпаведны тэмперамент і смеласць. Я маю на ўвазе Алега Сурскага, Эму Пугачову, Вольгу Каваленка, Валерыя Буйвала, Алега Ойстраха, Сяргея Петэрсана, Алега Белавусава...

Безумоўна, за апошнія гады наша секцыя панесла цяжкія страты: пайшлі з жыцця Уладзімір Бойка, Мікалай Ганчароў, Пётр Карнач, Юрый Карачун... Страціла мастацтвазнаўства і Міхася Раманюка. А маладыя крытыкі не з'явіліся, за выключэннем, бадай, аднаго Мікалая Пагранкоўскага. Не дзіва, што месца ўчарашніх прафесійных крытыкаў заступілі аматары, дылетанты ад мастацтва, у тым ліку журналісты і літаратары, у чыіх рэцэнзіях часцяком мільгаюць эпітэты накшталт "вялікі", "геніяльны", "неперараўзыдзены", "які адкрыў новы свет у сучасным жывапісе"...

Аднак, справа нават не ў гэтым. Хай будзе мастак "вялікім" ці "геніяльным" у вачах рэцэнзента, але чаму сама крытыка страціла прафесіяналізм?

А што такое прафесіяналізм? Гэта штодзённая, пастаянная далучанасць да жыцця мастацтва і, зразумела, не толькі двух-трох мастакоў, з якімі мастацтвазнаўца асабіста сябруе, а мастацтва цалкам, у розных гарадах і абласцях Беларусі, і нават у замежжы. Калі гэтага нестае — друкаваныя і вусныя аналізы выстаў ператвараюцца ў рытарычныя выступленні "алілуйнага" кшталту. І невыпадкова, што падобную "працу" значна больш паспяхова выконваюць часцей за ўсё самі сябры-мастакі і іншыя запрошаныя, якія імправізуюць ухвальныя тосты ў гонар аўтараў з выказваннем любові і ўдзячнасці за "велізарны талент", што "ад Бога".

Азіраючыся на шлях, што прайшло нашае мастацтва за апошнія гады, я ўсё ж мяркую, што патрэба ў працы крытыка ёсць і сёння. Хаця б для таго, каб цалкам не страціць тое, што мы называем "крытэрыямі" ацэнак сучасных мастацкіх працэсаў. Гэтыя крытэрыі ўсё больш размываюцца пад напорам камерцыйнага, "рынкавага" мастацтва.

У глыбіні душы я супраць рынку: як гэта? — з'яўляецца нейкі нувараш з хамскім густам, плаціць грошы за кепскія творы, дыктуе ўмовы і г.д. Але розумам усведамляю, што для мастака залежнасць ад рынку лепей за залежнасць ад таталітарызму.

Пры таталітарных рэжымах у мастака няма выбару, у рынкавых жа ўмовах ён можа выбіраць — зарабляць грошы або ствараць годныя рэчы, альбо і першае, і другое адначасова. Рынак правярае творчую асобу на трываласць — і гэта лепей за ўціск асобы.

Аднак, наш рынак — умоўны: у галерэях, у салонах пакупнікоў усё менее. Даводзіцца самім мастакам "лавіць" "малінавых пінжакоў", замежных або айчынных бізнесменаў і зацягваць іх у свае майстэрні. Альбо шукаць багатых спонсараў, якія, натуральна, таксама нічога задарма, толькі з прычыны любові да мастацтва для мастакоў не робяць. Хіба гэта не праблема мастацкага крытыка?

Дык чаму ж у нас сёння няма прафесіяналаў? Чаму наша Акадэмія мастацтваў не ў стане выхаваць сапраўдных крытыкаў-аналітыкаў? Магчыма, наша прафесія зрабілася непрэстыжнай і нікому не патрэбнай? Магчыма, лепей усё-такі быць гісторыкам мастацтва і не турбаваць жывых сучаснікаў? Магчыма, меў рацыю адзін мой знаёмы, калі казаў: "У нас мала крытыкі, што крытыкуе, а калі б яна і з'явілася — суцэльны ж лямант пачнецца: вораг ля сцен горада! Зачыняюць брамы, узнімаюцца на сцены, льюць гарачую смалу, ірвуць кашулі на грудзях... А чаму? Адвыклі. Адвыклі ад нечага, зусім нармальнага, натуральнага і неабходнага. Адвык шмат хто. Добра, калі адвыкаюць ад даносаў, крыку, зняваг... Але хіба я пра гэты "жанр"?

Дык дзе ж выйсце? Можа, сапраўды, мастацкая крытыка сёння ўжо не патрэбная?

**Барыс КРЭПАК**

**P.S.** У бліжэйшых нумарах мы апублікуем меркаванні на гэты конт некаторых мастацтвазнаўцаў, сябраў Беларускага Саюза мастакоў.

## Зоркі, што ўпалі ў нябёсы

# СПЕВЫ І КАХАННЕ МАРЫІ КАЛАС

***Захапленне спевамі было традыцыйным у сям'і Марыі Калас. У яе дзеда, Пэтруса Дземітрадзіса, быў цудоўны голас, і на плошчы сваёй роднай грэчаскай вёскі ён выдатна выконваў арыю Рыгалета, чаму нават пазайздросціў адзін італьянскі тэнар. Праз 50 гадоў ягоная ўнучка возьме ў спадчыну ягоны дар і пераўзыдзе яго.***

Такім чынам, самім лёсам Марыі Калас, з самага яе нараджэння, была прызначана асляпляльная кар'ера. Але наканавана было не толькі гэта. У яе жыццё балюча ўвайшло адно імя — Джэкі. Гэта было імя яе сястры, якая была на пяць гадоў старэйшая за Марыю, але гэта было таксама імя жанчыны, якая праз гады адбярэ ў яе адзінага мужчыну, якога яна кахала. Гэтая жанчына — Джэкі Кенэдзі.

Ну, а пакуль Марыя — маленькая дзяўчынка пяці гадоў, якая эмігруе з бацькамі ў ЗША. Праўда, жыццё сям'і неўзабаве ўскладніцца тым, што бацька Марыі акажацца вялікім аматарам жанчын, і ягонай жонцы давядзецца ўзяць на сябе выхаванне дзвюх сваіх дзяўчынак. Спачатку Евангеліна аддасць перавагу старэйшай дачцы, Джэкі; яна і на самой справе прывабная: высокая, зграбная, прыгожая. Яна валодае ўсімі вартасцямі, якімі прырода можа ўзнагародзіць жанчыну, Марыя, наадварот, дзіця нежаданае, бо чакалі хлопчыка. Яна тоўсценькая, кругленькая, з вачыма, схаванымі за шкельцамі акуляраў. Яна лічыць сябе нягеглай, і доўга будзе так думаць. Яна лічыць сябе таксама недастаткова любімай альбо зусім не любімай. І таму яна замыкаецца "ў сабе". Цэлыя дні яна праседжвае ў бібліятэцы, чытаючы ўсё, што трапляе пад руку, альбо мроіць ля вакна сваёй нью-ёркскай кватэры. І тым не менш у Марыі ёсць перавага перад сястрой: яна спявае. Евангеліна, якая марыла ў маладосці стаць актрысай, прымушае сваю дачку ўдзельнічаць ва ўсіх конкурсах, што наладжваліся ў той час на радыё. Евангеліну яе малодшая дачка цікавіць таму, што яна можа стаць актрысай, але трэба аддаць ёй належнае: маці была адзінай, хто адгадаў талент дачкі і прадбачыў яе неверагодны поспех у будучым. Але Марыі было патрэбна іншае — мацярынская любоў, а гэтага яна не бачыла.

"Нельга пазбаўляць дзіця ягонага маленства", — вымушана была заявіць спявачка ў адным з тых рэдкіх выпадкаў, калі яна пагадзілася распавесці пра сваё юнацтва. І ў другі раз: "Толькі з таго часу, як я пачала спяваць, я адчула, што мяне любяць".

Такім чынам, кар'ера Марыі пачалася. Аднойчы разам з сям'ёй яна слухала трансляцыю па радыё "Лючыі дзі Ламермур" і заўважыла, што спявачка фальшывіць. Так, яна ведае, чаго хоча: зрабіцца лепшай, самай знакамітай у свеце спявачкай. І вось Евангеліна, адносіны якой з мужам усё пагаршаліся, вырашае вярнуцца з дочкамі ў Грэцыю. Там у Марыі будуць выкладчыкі, якіх ёй тут нестае, каб стаць вялікай спявачкай. І сапраўды, у Афінах Марыя становіцца вучаніцай Марыі Цівелы, вельмі вядомай у свеце музыкі. Пазней іншы педагог, Эльвіра дэ Гідальга адкрые перад ёй сакрэты яе прафесіі. У дзень, калі Марыі споўнілася 15 гадоў, яна дэбютавала ў оперы "Сельскі гонар".

Марыя цалкам прысвячае сябе мастацтву. Праз 30 гадоў яна скажа: "Я працую, значыць, я існую". І яшчэ: "Што рабіць, калі не працаваць?" Гэта стане пастаянным дэвізам Марыі Калас.

У свае 22 гады Джэкі паранейшаму прыгожая, і акрамя гэтага, у яе ёсць паклоннік — сын багатага суднаўладальніка. Што да Марыі, дык яна працягвае спяваць, таўсцець і адчувае сябе ўсё больш і больш нязграбнай, нягледзячы на свае сцэнічныя поспехі.



*Марыя Калас у самай сваёй знакамітай ролі Нормы з аднайменнай оперы на сцэне грэчаскага тэатра Эпідор.*

Грэцыі ўжо недастаткова для Марыі Калас. Яна зноў едзе ў Злучаныя Штаты, дзе знаходзіўся яе бацька, які тады ўжо пакінуў сям'ю. Але ў Нью-Ёрку "зорка" афінскай оперы нікому не вядомая. Горш за тое, пастаноўка "Турандот" у Чыкагскай оперы, куды Марыю запрасілі спяваць, правальваецца. Зноў ад'езд у Еўропу, на гэты раз — ў Італію. Яна прыязджае ў Верону, дзе павінна была спяваць у "Джакондзе" на знакамітай сцэне перад дваццаццю пяццю тысячамі гледачоў. Менавіта ў Вероне яна пазнаёмілася з Джанам Батыста Менегіні — багатым прамыслоўцам. Яму больш за 50 гадоў і ён вельмі цікавіцца мастацтвам. Менегіні было даручана суправаджаць Марыю ў Вероне. А неўзабаве аказалася, што знакамітая спявачка завалодала ягоным сэрцам. Марыя ўпершыню ў жыцці адчула, што да яе ставяцца не як да спявачкі, а як да жанчыны. У Марыі, цалкам захопленай сваімі выступленнямі, не было паклоннікаў. Менегіні здолеў завалодаць яе ўвагай. Марыі падабалася разняволенасць іхніх адносінаў, ягоная клапатлівасць. Неўзабаве яна напіша сваёй маці:

"Я сустрэла чалавека, які па-вар'яцку закахаўся ў мяне, яму 53 гады, і ён хоча пабрацца са мной шлюбам".

Увага з боку чалавека, які хутка стаў яе мужам, хаця сям'я Менегіні была супраць гэтага шлюбу, паўплывала на тое, што Марыя Калас цалкам змянілася: з таўстухі яна зрабілася хударлявай, з чалавека, суцэльна засяроджанага на праблемах сваіх выступленняў, ператварылася ў жанчыну, поўную абаяльнасці.

Марыя працавала з такімі рэжысёрамі, як Лукіна Вісконці і Франка Дзэфірэлі, якія стваралі грандыёзныя спектаклі ў Ла Скала, дзе яна была адной з вялікіх "зорак", а асабліва ў знакамітай оперы "Норма", дзе яна супернічала з Рэнатай Тэбальдзі, або, больш дакладна, Ла Тэбальдзі.

Марыя змянілася нечакана, зрабіўшыся хударлявай і зграбнай. "Што ты робіш са сваімі кілаграмамі? — папытаўся ў яе аднойчы Артура Тасканіні, — як табе ўдалося стаць такой прыгожай?"

Марыя, сапраўды, папрыгажэла. Яна — бялявая, худзенькая, — і спазнала ўжо поспех у Чыкага. Калі яна пабачыць Одры Хепбёрн ў "Рымскіх вакацыях", дык ёй захочацца стаць яшчэ больш зграбнай. Гэта быў той час, калі ў яе жыццё ўвайшоў Арыстоцель Анасіс. Марыя яшчэ не ведае, што перажыве самыя значныя імгненні ў сваім жыцці. Усё пачалося ў Венецыі, на вечарыне, наладжанай вядомай Эльзай Максвел.

На гэтай вечарыне прысутнічаў Арыстоцель Анасіс, суднаўладальнік, міліярдэр, там жа была і ягоная жонка Ціна, але з самога пачатку Анасіс бачыў толькі адну жанчыну: Марыю Калас. Пачынаючы з гэтага дня іх будуць бачыць удваіх: ці то ў Лідо, ці то на яхце Анасіса "Крысціна". Усім зразумела, што знакаміты міліярдэр моцна заляцаецца да не менш знакамітай спявачкі. Гэта зразумела ўсім, акрамя, магчыма, мужа, Батыста Менегіні.

Марыя ў захапленні, бачачы чалавека, якога цікавіць толькі яна, і больш нічога. Гэта штосьці новае. Але, што яшчэ больш за навізну, дык гэта тое, што яна ўперышню закахалася. А яшчэ нядаўна яна казала пра свайго мужа: "Я не змагла б спяваць, калі б ён не прысутнічаў. Калі я — голас, дык ён — душа".

Цалкам відавочна, што здзяйсняецца вялікі паварот у жыцці Марыі Калас. Непазнавальным зрабіўся і Анасіс. Ён, якому рабілася жахліва пры ўпамінанні пра оперу, здзіўляючы сваю жонку Ціну, раптам выказаў страснае захапленне гэтым відам мастацтва. Пасля спектакля "Медэя" ў Ковент-Гардэн ён быў першым, хто павіншаваў Марыю і, скарыстаўшы момант, запрасіў яе і яе мужа зрабіць круіз на борце "Крысціны", дзе ўжо знаходзіліся ганаровыя госці, напрыклад, сэр Уінстан і лэдзі Чэрчыль.

Менегіні, усведамляючы небяспеку, вырашае адмовіцца, але Марыя з захапленнем прымае гэтую прапанову. І на працягу ўсяго падарожжа яе бачаць да немагчымага шчаслівай: яна несупынна пра нешта пытаецца, нібыта дзіця, і пастаянна, з малейшай нагоды, радуецца. Ніхто ўжо не сумняваецца, што Марыя закаханая. Ціна патрабуе скасавання шлюбу і хутка выходзіць замуж за маркіза дэ Блендфорда. Менегіні заняты судовымі працэсамі. Але гэта не замінае Марыі і Анасісу на вачах ва ўсіх перажываць вялікае каханне. Марыя ўжо адмовілася ад ангажэментаў. Яна прысвячае сябе "мужчыне свайго жыцця". Яе, якую дасюль цікавілі толькі спевы ды музыка, цяпер больш за ўсё цікавяць фінансы. Але калі Марыя жыве толькі каханнем, дык ён мае і іншыя інтарэсы: ягоныя справы, ягоны дом, дзеці, Аляксандр і Крысціна. Дзеці ніколі не прызнаюць Калас, а Анасіс, са свайго боку, нічога не зробіць для таго, каб зблізіць іх з жанчынай, з якой ён цяпер жыве. Гэта было каменем на сэрцы Марыі. Як і тая акалічнасць, што Анасіс не спяшаўся ажаніцца з ёй. А Марыя марыла мець мужа, дзяцей, сабаку. Мара кожнай жанчыны.



*Марыя Калас казала пра свайго мужа Батыста Менегіні: "Я не магу спяваць, калі яго няма ў зале".*

Стала вядомым, што Анасіс хутка ажэніцца з іншай. І гэта — Джэкі Кенэдзі, удава прэзідэнта, забітага ў Даласе. Аднойчы "Крысціна" з'явілася ў Пірэі без Марыі Калас. Яе месца на борце, як і ў сэрцы чалавека, якога кахала Марыя, заняла Джэкі Кенэдзі.

"Мы пойдзем туды, куда пажадае мадам Кенэдзі, — сказаў Анасіс экіпажу. — Тут яна загадвае, яна — капітан".

Марыя Калас сачыла за гэтым круізам са сваёй парыжскай кватэры. Вярнуўшыся з падарожжа, нехта скажа: "У Джэкі зоркі ў вачах, грэчаскія зоркі". І Анасіс зрабіў тое, у чым было адмоўлена Марыі: ён ажаніўся з Джэкі Кенэдзі.

З тае пары для вялікай Калас пачалося вандроўнае жыццё: пераезды з аднаго тэатра ў іншы, з аднаго гатэля ў другі. Яна сачыла за развіццём шлюбу Анасіс-Кенэдзі, што не заўсёды выглядаў ружовым.

Напачатку Анасіс казаў: "Джэкі — маленькая птушачка, якой неабходная воля, а ў роўнай ступені і бяспека. Я прадастаўлю ёй і тое, і другое. Яна можа рабіць усё, што захоча: наведваць дэманстрацыі мод, падарожнічаць, бавіць час з сябрамі..."

Але казалі таксама, што за першы год іхняга сумеснага жыцця Джэкі патраціла паўтара мільёны долараў.

Калі загінуў, пілатуючы самалёт, сын Анасіса, Аляксандр, Марыя, ягонае старое каханне, была побач з ім. У гэты дзень Марыя ўбачыла чалавека, які састарэў, схіліўся пад цяжарам няшчасця. З таго дня жыццё Арыстоцеля Анасіса пайшло ўніз. Але Ціна апярэдзіла яго. Скасаваўшы шлюб з маркізам дэ Блендфордам, яна памерла ў сваім парыжскім доме. Анасіс працягваў жыць, але што гэта было за жыццё... Марыя наведала яго ў амерыканскім шпіталі ў Парыжы. А памёр ён у той час, калі яна знаходзілася ў сваім доме ў Палм-Біч. Для яе, якая працягвала яго кахаць, гэта быў смяротны ўдар.

Яна зрабіла яшчэ турнэ ў Японію, а пасля гэтага ўсё часцей была адна ў сваёй кватэры на праспекце Жоржа Мандэля ў Парыжы, дзе і памерла 16 верасня 1977 года.

*Часопіс "Bonne soirée".*

**Пераклад з французскай Лідзіі ЛІПЕЦКАЙ**



# БАСАНОГАЯ АЙСЕДОРА

70 гадоў таму, чатырнаццатага верасня 1927 г. у Ніццы загінула Айседора Дункан. Увесь свет называў яе "чырвонай танцоркай", а ацэнкі яе ўплыву на мастацтва танца і на культуру ўвогуле да гэтай пары розняцца дыяметральна. "Дунканізм" у свой час быў не толькі сцэнічнай дзеяй, але і стылем адзення, нават стылем паводзін. Феномен Айседоры яшчэ і ў тым, што яе поспех у Еўропе быў бадай што першым выпадкам "экспарту" культуры з Новага свету ў Стары. Між тым, Сяргей Дзягілеў адзначаў, што ўздзеянне Дункан на класічны балет мела ракавыя наступствы для апошняга.

Факты асабістага жыцця рэвалюцыянеркі танца таксама ўражваюць трагізмам: недарэчная гібель дзяцей, што патанулі разам з сапсаваным аўтамабілем, недарэчны, надрыўны, па сутнасці эпатажны шлюб з Сяргеем Ясеніным, фармальны канец якому паклала самагубства паэта, і вяршыня недарэчнасці — смерць ад шарфа, які накруціўся на вось "Пакарда"!

*(Артыкул аб адной з заснавальніц сучаснага танца чытайце ў тэматычным выпуску "Опера і балет", што рыхтуецца да выхаду ў бліжэйшыя тыдні.)*

№ 37 20 — 26 верасня 1997.

НАРОД У ГІСТОРЫ



# ЧАС ПІЦЬ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 36)*

## 4. ЦЯЖКАЕ ДЗІЦЯ ПАМЕЖЖА

Мы нараджаемся ад мамы і таты. Мы — плён іх судакранення. Суседзі і сваякі пажыццёва будуць параўноўваць нашае падабенства да кагосьці з іх, і толькі новыя людзі ацэняць проста нашую індывідуальнасць.

Пакуль у нас не пытаюцца, каго мы любім болей — маму альбо тату, мы здатныя любіць абодвух. Значна складаней адказваць на гэтае пытанне не жартам тоўстай дзівакаватай суседцы, а ўсур'ёз, калі бацькі разводзяцца. Іх судакраненне пераўтвараецца ў мяжу з аховай і ашчэранымі сабакамі. Іх дзеці становяцца цяжкімі дзецьмі памежжа. Ці будзе калісь таму дзіцятку лягчэй? Хіба што, калі ён зажыве самастойным жыццём.

Львоў — чароўнае дзіцятка гісторыі, падобнае і да сваіх бацькоў, і да бабулі з дзядуляй, сям-там "падштрыхаванае" рысамі дзядзькаў і цётак.

Пры гэтым камерны, цёплы, чалавечы Львоў — цяжкае дзіця памежжа. Памежжа не зрабіла яго монстрам, і львоўскае шэрае неба не цяжкае, нізкае, як, напрыклад, неба Пецярбурга, а лірычнае, сумнае, як вочы дзіцяці пры разведзеных бацьках.

Жыхары Львова з'яўляюцца яго маленькімі духоўнымі копіямі. Няма ў іх фанабэрыстасці, але часам ёсць тая разгубленасць, якая спачатку падалася мне несабранасцю. Львоў і яго насельнікі непазбежна шукаюць згоды з памежжам. Ухіляючыся ад энергіі напорыстага Захаду і стамляючыся кансерватыўным Усходам, яны часта бачаць выратаванне ў кампрамісе.

Грэка-каталіцкая вера — выратавальны сімбіёз памежных рэлігій, рашучы кампраміс, элегантнае выйсце на сваю сцяжыну.

Спецыфічная рэлігійная сітуацыя Заходняй Украіны — прыклад таго, як украінскі нацыянальны характар настойліва вырашае праблемы памежнай падвоенасці.

На ўсходнеславянскім памежжы прыналежнасць да той ці іншай хрысціянскай традыцыі часта вызначала нацыянальную ідэнтыфікацыю.

У Галіцыі уніяцкая царква стала знакам украінскай нацыянальнай ідэі і ў "горшыя" часы выступіла яе кансерватарам.

Але ўдумлівыя парафіяне ўкраінскай царквы не маюць поўнага заспакаення. Тут сама назва — "грэка-каліцкая" — непазбежна прыводзіць да параўнання вытокаў: візантыйскіх і рымскіх. Няўжо можна не ведаць, што гэта вынік іх судакранення? Няўжо можна не ведаць тайну ўласнага з'яўлення на свет?

Мая суразмоўніца, львавянка, уніятка па веры, прызнаецца, што стамілася ад вечнага адчування памежжа: "Нам лягчэй было б жыць заходнім календаром і спраўляць свае рэлігійныя святы разам з каталікамі, але нас не зразумее ўсход, мы пакрыўдзім яго традыцыю. Гэта наш крыж. Львоў адкрывае перад намі еўрапейскасць, але мы павінны сябе стрымліваць, каб не захапіцца Захадам. Пры гэтым мы не хочам вяртацца на Усход. Мы самі не ведаем: мы болей заходнія ці болей усходнія. Мы — "паміж". Здаецца, назаўсёды. Прычым Львоў яшчэ мацней, чым уся Украіна. Я ведаю, што мая душа там, дзе стэп, пясок, Прыдняпроўе, ручай з крынічнай вадой — "цэ е Украіна". Але я, як і ўся Заходняя Украіна, "цяжка дытына пагранічча". У нас стэпавае сэрца з еўрапейскай свецкай культурай, трошкі штучнай, не народнай, але мы навучыліся гэта сумяшчаць і тут жыць. Мы дзеці, якія не растуць, як трава, мы цяжкія дзеці памежжа..."

Пытанні сваіх нацыянальных і культурных вытокаў на Заходняй Украіне ставяць не толькі мудрагелістыя гараджане. Безумоўна, калі ўвайсці ў стракатую гуцульскую хату, то наўрад ці правінцыял адкажа вам, чаму куфры з прыданым для яго дачкі адно да аднаго — рымскія саркафагі, упрыгожаныя паганскімі сімваламі. Ён скажа, што гэтак было заўжды, што гэта такі гуцульскі стыль. Але потым ён успомніць, што ходзіць легенда пра тое, што калісьці рымскія легіянеры высеклі ўсіх мясцовых мужчын і засталіся з прыгожымі карпацкімі дзяўчатамі. Адсюль, відаць, і куфры рымскія... "Выходзіць, хто ж такія гуцулы?" — задумваецца сам гуцул і, у адрозненне ад беларуса, наўрад ці кіне аб гэтым думаць да канкрэтнага адказу.

Несупакоены львоўскі і заходнеўкраінскі патрыятызм, яго інтэлігенцкае жаданне самавызначыцца вяртае мяне думкамі на Беларусь, ставіць нашыя праблемы ў адну геаграфічную плашчыню і ў адзін часавы пояс.

## 5. БРАКАНЬЕРЫ З XI СТАГОДДЗЯ

Наш маленькі бадзяжны аўтобус рушыў у дарогу. Супольная з Варшаўскім універсітэтам экспедыцыя накіравалася ў Браслаў і ваколіцы.

На беларуска-польска-балтыйска-расійскай гістарычнай прасторы мы задаваліся прыкладна тымі ж пытаннямі, што непакоілі мяне і ў Львове. Як жывуць людзі памежжа? Што вызначае іх самасвядомасць? Чым сілкуецца іх душа і цела? Гісторыяй? Верай? Мовай? А можа, звычайнай бульбай... Як і ў Львове, хацелася растлумачыць сабе тое, што часта называюць "тутэйшасцю", млявай талерантнасцю.

Першы занятак па беларускім патрыятызме мне быў пададзены маім магілёўскім дзедам, якога ў вёсцы мелі за мудраца: "Беларусы — нацыя выдуманая, — трусіў ён свае думкі. — Калі б зрабіць дзве ўлады: па левай руцэ польскую, а па правай — рускую, — на 100 працэнтаў у Польшчу пойдуць тыя, што на захадзе, католікі, а праваслаўныя, усе, як адзін, пачухаюць да рускага цара. Я хоць і пішуся беларусам, але ж гэта толькі "назвалія такоя" — "беларус". Памянціў мой дзед языком, а з яго словаў хоць дысертацыю пішы.

Браслаўшчына, якую выстроіліся зведаць мы, абяцала не вясковае простае, а нібыта заходняе адукаванае разуменне нашых пытанняў. Ды яшчэ з пазабытым смакам незрусіфікаванасці.

Тут, як і ў Львове, да 1939 года Саветаў не было. Хто жыў па Полацку і Віцебску, быў "васточнікам" ці "савецкім", а гэтых, браслаўскіх, як і тых, львоўскіх, празывалі "заходнікамі". Вось тады ў мясцовую беларушчыну трапіла слоўка "мітінг", акурат з такім вымаўленнем. А з савецкіх жаўнераў, што яшчэ пры бітках з Пілсудскім завіталі ў гэтую старонку, дзівіліся як з "чарцей у шапках з рогам" ці "са штыком". Мне не адразу стала зразумелым, што гэтак могуць застрашваць улюбёныя намі, савецкімі, шапкі-будзёнаўкі.

Пасля 1939 года ўсходняе насельніцтва на роварах прыязджала на далучаную Браслаўшчыну, каб паглядзець, як добра тут жывуць вызваленыя ад ляшскага прыгнёту "багатыры". Але ж мы, перш чым абысці вясковыя хаты і іх насельнікаў пры занядбанай гаспадарцы, вырашылі схапіць адукаваную думку ў археолагаў, што

# МАЛАДОСЦЬ... СТАРАЖЫТНАСЦІ

Дзесяцігоддзе музея — гэта не надта вялікая дата, але наваградцы вырашылі ўсё ж адзначыць яе. Па-першае, гісторыка-краязнаўчы музей для такога старажытнага горада, як Навагрудак, зусім не раскоша, а неабходнасць, а па-другое, гэтую неабходнасць не спяшаліся прызнаваць сталічныя ўлады — дазвол на адкрыццё музея быў атрыманы з цяжкасцю, дзякуючы настойлівасці саміх наваградцаў.

Едучы да сваіх землякоў, я ўспамінала аповед былога дырэктара Дзятлаўскага музея Міхала Фёдаравіча Петрыкевіча (які, дарэчы, вучыўся ў наваградскай беларускай гімназіі) аб тым, як будаваўся музей у Дзятлаве. Там была амаль тая ж сітуацыя: сталіца не давала дазволу на будаўніцтва гісторыка-краязнаўчага музея, але "разагітаваныя" Міхалам Фёдаравічам мясцовыя ўлады дамагліся згоды на будаўніцтва камбіната бытавога абслугоўвання і пад гэтай шыльдай узводзілі рыштаванні... А пасля ўсё ж неяк "перапісалі" той будынак на музейны... Міхал Фёдаравіч вельмі прасіў мяне тады пра гэта не ўспамінаць (быў канец 70-х гадоў): можа, баяўся, што зноў адбяруць улады музей пад нешта матэрыяльна-бытавое.

... Ва ўтульнай зале музычнай школы народу было поўна. І не дзіва: многія з прысутных уклалі хаця часцінку сваёй душы ў гэтую агульную справу, а найперш, канешне, першы галоўны захавальнік музея Ніна Пятроўна Шурак і сённяшні дырэктар Тамара Вяршыцкая.

"Даводзілася выносіць і смецце ад разламаных кафельных печак, бо памяшканне мы атрымалі ў старым доме каля цэнтра, а яго ж трэба было прыстасаваць пад музей, і прыводзіць да ладу экспанаты — мыць, чысціць, рэстаўраваць. Гэта яшчэ шчасце, што не ўсё загінула, што ў людзей тоесёе засталося", — расказвала Ніна Пятроўна, удзячна ўспамінаючы прозвішчы, факты, маленькія радасці на дзесяцігадовым шляху стварэння гістарычнага асяродка роднага горада.

Маленькія радасці — гэта найбольш рэдкія з тых амаль трынаццаці тысяч экспанатаў, якія цяпер налічвае музей, а таксама падарункі, зробленыя шчодрымі людзьмі — грошай жа амаль заўсёды не хапае. З першых закупак, з першых ахвяраванняў і складаліся выставы, з якіх найбольш запомніліся наваградцам такія, як "Невядомы Наваградак", "Нашы суайчыннікі за мяжой", а таксама тыя, дзе былі паказаныя вырабы мясцовых майстроў — саломапляценне, ткацтва, вышыўка.

Спецыялісты — такія, напрыклад, як галоўны захавальнік фондаў Гродзенскага музея Святлана Палхоўская, якая прыехала на свята, даюць высокую ацэнку працы, якая зробленая за гэтыя гады супрацоўнікамі Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. Але найбольш адзначалі ўсе выступоўцы тую атмасферу, якая склалася ў музеі і якая пачала істотна ўплываць на агульную духоўную "аўру" горада, дзе дасюль быў толькі музей вялікага наваградца Адама Міцкевіча, але горад варты не аднаго музея славутых землякоў — напрыклад, Ігната Дамейкі, Яна Чачота. А яшчэ — Міндоўга, Карыбутаў, Соф'і Гальшанскай... Ды і геній, як вядома, не вырастае на пустым месцы, і нават ягонае жыццё не ўбірае, а ўкладаецца ў кантэкст жыцця роднага горада ці зямлі. На маю думку, разам з гэтым музеем у Навагрудку пачала ўсталёўвацца беларускасць — і тая, якая жывіла сабою творчасць Адама Міцкевіча, адгукалася ў старажытных актах, напісаных тут: у наваградскіх сейміках, што праводзіліся менавіта на старажытнабеларускай мове. І тая, якая нарадзіла незвычайную з'яву ў адукацыі пачатку XX стагоддзя на беларускіх землях — Наваградскую беларускую гімназію, Грамаду, Таварыства беларускай школы, чые ячэйкі менавіта тут працавалі найбольш актыўна.

Тамара Вяршыцкая змагла выкарыстаць многія магчымасці, якія ў гады набыцця незалежнасці ўпершыню адкрыліся перад інтэлігенцыяй — наладзіла кантакты з нашымі землякамі-наваградцамі за мяжой, а таксама з Ляйменскім музеем і жыхарамі гэтага невялікага гарадка ля Франкфурта-на-Майне. Сёлета там, напрыклад, будзе наладжана выстава мастака Кастуся Качана. Дзякуючы яе клапатлівасці пачалі з поўнай аддачай працаваць навуковыя супрацоўнікі Мікола Гайба і Ала Снітко — іх часта і ахвотна запрашаюць з лекцыямі ў школы і працоўныя калектывы. Навукоўцам ёсць на каго раўняцца — дзякуючы дырэктару Інстытута гісторыі АН Беларусі Міхалу Касцюку, які таксама паходзіць з Наваградчыны, тут кожны год праводзяцца "Наваградскія чытанні", дзе нібы нанова адкрываюцца многія, амаль невядомыя нават шырокаму колу інтэлігенцыі старонкі наваградскай, а значыць, і агульнабеларускай гісторыі. Кніга ж "Памяць", якая сёлета выйшла з друку, увогуле можа быць названа ўзорнай — столькі ўкладзена ў яе новай, унікальнай інфармацыі.

... Я прывезла на гэтае свята адну з кніжак, выдадзеных на пачатку гэтага стагоддзя, дзе ёсць старонкі пра Наваградскае ваяводства, каб падарыць яе музею. Гэтыя кніжкі ў свой час я купляла ў букіністычных крамах Вільні і Каўнаса — нашыя крамы, помніцца, баяліся іх браць на продаж — а раптам там нешта "нянашае, нацыяналістычнае". Помніцца, адну з такіх кніг, патрапаную, без вокладкі, я выпрасіла на папяровай фабрыцы пад Слонімам. Дарэчы, як успомню старажытныя драўляныя вокладкі з металічнымі засцежкамі, кірылічныя шрыфты з размаляванымі загалоўнымі літарамі — словам, усё тое неймавернае багацце нашага духу, якія дзень за днём, год за годам перамолвала гэтая фабрыка, прымаючы іх ад насельніцтва за мізэрныя грошы, якія ў сям'і, што жыла бедна, здаваліся вялікімі (таму і здавалі, і радаваліся, што за непатрэбнае кніжнае месіва могуць атрымаць хаця штосьці) — словам, я і дасюль адчуваю ад гэтых успамінаў балючы камяк у горле. А яшчэ — вінаватасць за тое, што трымаю іх у сябе. А можа, гэтага экземпляра ўжо няма больш нідзе? Таму год за годам пры нейкай нагодзе аддаю іх туды, дзе іх могуць убачыць іншыя, аддаю з надзеяй, што, магчыма, вось гэтая кніга народзіць новае апавяданне, альбо навуковае паведамленне, альбо проста натхніць нечую душу на разуменне таго, як патрэбныя сёння для беларускай справы адукаваныя, шчырыя, прыгожыя людзі.

Такія, якія сёння працуюць у маладым Наваградскім музеі...

**Вольга ІПАТАВА**

# КРЫНІЧНУЮ ВАДУ

капалі тутака, пры возеры Дрысвяты, могілкі XI стагоддзя.

Тапонімы Браслаўшчыны шмат падказваюць археолагам, дзе шукаць выкапні гісторыі. Нездарма ж гару будуць называць Гарадзішчам. У вёсцы Богіна спадзявайся на паганскае капішча. Тут нават легенда жыве пра нехрышчоны драўляны горад Угар. Ён доўга трымаў сваю незалежнасць ад навакольнага свету, бо месціўся, як іншыя старажытныя замкі, на востраве пасярод возера. Змарыла горад невылечная хвароба, а каб не хадзіла пошасць з апусцелага астраўнога свету па наваколлі, замак і забудовы спалілі.

З той жа мэтай — пазбягаць нячыстай сілы і захворванняў — могілкі даўнішніх паселішчаў адносілі ад замкавага вострава на далёкі бераг возера. Там сёлета і працавалі гісторыкі з Гарадзенскага універсітэта.

Іх галоўныя знаходкі растлумачылі нам усё, што мы маглі чакаць ад гэтых мясцін.

З XI стагоддзя акуратненька, ціхенька, цяпер ужо без доўгіх косаў і вышытага шараватага адзення ляжала ў сваёй неглыбокай магілцы жанчынка. Бронзавыя скроневыя вісёркі-калечкі, пацеркі з пазалочанай керамікі і напасны маленькі ножык сведчылі аб яе славянскай прыналежнасці. Але раптам на сэрцы, бо засталіся накостныя плямы ад металу, адшукаліся рассыпаныя змеепадобныя пярсцёнкі і бранзалеты. Ці не балтыйскія сваякі паклалі памёрлай дачцэ і сястрычцы гэтую жменьку тагачасных каштоўнасцяў? Яна — прыбалтачка, а замуж пайшла за славяніна, так, як сёння беларус мог бы ажаніцца з літоўкай. Дзетак нараджала, як сёння сказалі б, "мяшанцаў", але ж, небаракі, раненька памерлі. Адзін так ляжыць, чысценька, а другі, старэйшы, з амулетам на шыі з зубоў бабра, з паганскім сімвалам! Гэта так, як бы маці яго, раней нехрышчоная, можа і прыняла веру мужа, але ж дзеткам часткова пераказала звычаі ўласнага роду.

І жылі, не сварыліся, амулетаў паганскіх з шыі не зрывалі, сваякоў з балтыйскага племені клікалі на святы і на жалобу. Ці сёння тутака, на гэтых землях, не тое ж самае? Усё памешана, паблытана, але ж існуе міралюбна і пасцярожана — куды ж тут сварыцца? Тут нават на ўсё гэта даецца сваё, амаль паганскае тлумачэнне. Маўляў, жылі народы побач, і кожны сваю драбіну будаваў да самага галоўнага Бога. А Ён такой вялікай колькасці гасцей прымаць не спадзяваўся, ды ад нечаканасці парастрос плячыма гэтыя рыштаванні. Людзі пасыпаліся, як дажджынкі, пазмяшаліся каля азёраў Браслаўшчыны ды і заблыталіся ўжо, хто з якой драбіны зваліўся.

Легенды тутака бродзяць-калабродзяць...

... "А вас чаго нясе пад самую Літву?" — пыталіся ў нас на КПП. "Да археолагаў едзем. Хочам паглядзець на хлопчыка з XI стагоддзя, з амулетам з зубоў бабра". "Ой, браканьерам быў ваш хлопчык, на баброў паляванне забаронена..." — сур'ёзна папярэдзілі нас і далі дазвол паехаць да "мяшанцаў".

### 6. КЛЁЦКІ З ДУШАМІ

Этнографы і дыялектолагі ўжо бывалі ў гэтых краях. Не ведаю, якія каштоўнасці мог бы цяпер выявіць калекцыянер-этнограф у добрасардэчных беларускіх хатах, але моваэнаўцу можна ўразіць калекцыяй беларускіх назваў бліноў з бульбы. У рэдкай хаціне вас гэтым не пачастуюць.

Я націнаю на памяць рэгіянальныя "дранікі", "дзяронікі", "таркаваныя бліны", "таўчонікі" і "картаплянікі". Дадаю начынку ў "накрыпаныя бліны", смажу са скваркамі "цапяліны", кідаю ў кіпень "клёцкі з душамі". "Душа" — гэта па-простаму "мяса". Вось такое простае адзінства душы і цела.

Моўныя даследаванні нашае экспедыцыі павінны былі дарасці да сацыялінгвістычных, а этнаграфія глыбокадумна перайсці ў культурную антрапалогію. Меркавалася выпрацаваць новы погляд на звычныя рэчы, ужывацца ў сітуацыю. Сапраўдныя антраполагі-культуролагі Усходу ствараюць у сябе ў кватэрах будысцкія храмы, іх цемя і барада пастулова радзеюць па контурах зарасцяў інданезійца альбо жыхара Тайланда. Тыя, каго часова займаюць, да прыкладу, парадоксы выжывання ў колішніх канцэнтрацыйных лагерах, худнеюць і зыркаюць запалёнымі вачамі ад перачытвання ўспамінаў сведкаў лагерных кашмараў. Аднаму такому даследчыку канцлагерных лёсаў я адшукала рэцэпт нашых вясновых гусачак-"галёпаў". Памятаеце, іх пякуць на Беларусі, гукаючы ў сакавіку паганскае Сонца, і пакідаюць як талісман. Хочаце верце, хочаце не, але шматпакутныя беларусачкі з мізэрнай пайкі хлеба ляпілі ў лагеры сваіх птушак і — сілы нябесныя! — выжывалі. Хто з'ядаў увесь хлеб — чаўрэў і паміраў, а маленькі жытні бажок даваў чалавеку моц, каб выжыць.

Патэнцыял чалавечай душы закручаны ў сярэдзінку, як мяса ў "клёцках з душамі" — гэта самы жыватворны кавалачак. Тут, на Браслаўшчыне, ужываючыся ў сітуацыю, мы елі "клёцкі з душамі". Мы хацелі здабыць мясную начынку беларускай стравы. Але не выразаць яе вострым нажом, а паспрабаваць адсунуць тое, што палягае на паверхні чалавечай памяці, і дакапацца да сутнасці.

Людзі, якія жывуць на Браслаўшчыне, сардэчна вітаюцца і сардэчна развітваюцца. Іх вочы навільжняюцца, калі пытаешся пра хваробы альбо пахаванні. Іх сціпласць абяззбройвае: мясцовая бабулька-літоўка перад тым як прызнацца, што маці нарадзіла яе ў полі, выгнала з дому ўсіх мужчын. А дзед Стэфан, паляк з літоўскім прозвішчам, які размаўляе па-беларуску, гатовы быў пагнацца за намі на хворых нагах, калі мы за мяшок белых налітых яблыкаў хацелі яму заплаціць.

92-гадовая баба Гелена на нашае прамое пытанне: "Колькі вам гадоў?",— какотліва ўсміхнулася і адказала: "А колькі дасце?" А калі ёй пажадалі дажыць да ста, нечакана спыталася: "А сто — гэта многа? Ведаю, што 96 гадоў жывуць, а сто... — не ведаю, колькі гэта".

Затое няўрымслівая баба Косця (Канстанцыя) з электроннай хуткасцю і дакладнасцю выдавала нам інфармацыю пра кросны і "караўлоты". І я зразумела: для мяне гэты калаўрот, як для бабы Косці камп'ютэр.

Марфа Цітаўна, 70-гадовая стараверка, носіць смешныя косачкі са стужкамі. Яе боская ісціна ўзводзіць у прынцып адзінае: "Не асуджайце, ды не асуджаны будзеце!" Гэта закон жыцця на памежжы.

Мілыя браслаўскія старыя — яны жылі пры Польшчы, пры Літве, пры Расеі, пры Немцах і Саветах. Яны моляцца папольску і па-славянску, ведаюць літоўскую, разумеюць латышскую, рускую, нямецкую мовы, але гавораць і думаюць на мове, для якой не абралі назвы. Мяне захапляе іх моўная адкрытасць і мяне ўсцешвае іх "простая мова", для мяне яна — жывая беларуская, якой так не хапае ў гарадах.

Пытанне пра нацыянальную прыналежнасць тут прыводзіць да сарамлівай блытаніны. Старавер Васілій, па-мясцоваму "рускі", альбо "маскаль", ухіляючыся ад недарэчнага адказу, заявіў: "Лес — мая нацыя!" І ўсё ж такі вера — а тут пераважна жывуць каталікі, праваслаўныя і стараабрадцы — вызначае нацыянальную прыналежнасць тутэйшага насельніцтва. А калі пытаешся, кім па веры можа быць беларус, людзі дабрадушна дазваляюць яму быць кім заўгодна, хоць мусульманінам.

Развагі пра "беларускасць" звычайна заканчваюцца ўспамінамі пра тое, што калі адзін ксёндз ў 20-я гады пачаў чытаць казані па-беларуску, яму забараніў гэтае рабіць біскуп, а калі прыйшлі Саветы, адзін адукаваны з сяла Далёкія пахваліўся, што ён беларус — і болей яго ніхто не бачыў. Кажуць, што з мінскай злачыннай арганізацыі быў.

Адным словам, паняцце "беларускасць" застаецца плодам на невядомым дрэве. Яго ніхто не зрывае, таму што не ведаюць, якога ён смаку. А яшчэ ўсё гэта да смутку нагадвае жыццёвы вопыт мясцовай бабулі Анці. 80 гадоў жыве яна на беразе чыстага Браслаўскага возера, але вугра "аніразачку да губачкі не прыклала", таму што ён ёй да "гада" падобны, хаця і кажуць, што вельмі смачны.

Як ні круці, а памежнаму беларускаму насельніцтву нашмат прасцей быць у этнічным становішчы: "мы мяшанцы" і мова нашая "мяшаная". Мы не ведаем, хто мы, клічце нас "гэндзікі" або "гэндзюкі", бо мы "гэкаем", палякаў жа можна называць гукапераймальным "пшэкі". Клічце нас "бульбашы". Во! — клічце нас "клёцкі з душамі".

Тут, на месцы, здаецца, стала зразумелым, што беларуская "тутэйшасць" — гэта стан, калі чалавек не задаецца пытаннем, чаму побач з ім, у адной вёсцы, жыве паляк, які не ўмее размаўляць папольску, або беларус, у якога маці і бацька былі палякамі-каталікамі, або рускі старавер, які сцвярджае, што памятае сябе і сваіх продкаў толькі жыхарамі Беларусі.

"Тутэйшасць" — гэта стан мужыка, які не ведае і ведаць не хоча, як яго гаспадыня гатуе штодзённую ежу. Гэта стан ратавання ад лямігалоўных пытанняў. Каб напіцца "крынічнай вадой" беларускага патрыятызму, мы паспрабавалі спытацца ў вёсцы Укля: "Маецца тут у вас самы стары мясцовы беларус?" "Быў, учора памёр, сёння пахаванне",— без жарту адказалі нам.

Мне падалося, што мы спазніліся. Дома я паглядзела на карту Еўропы. Захацелася ў прымроеную дзяржаву Беларусь, зямную энергію якой ніхто не будзе абкрадаць і навязваць сваю дамінанту.

Не, мы не спазніліся, мы прыехалі нават зарана. Тут не выспелі яшчэ адказы на нашыя пытанні. Львоў іх сабе ўжо задаў. Браслаў пакуль яшчэ не задумваўся.

**Інэса КУР'ЯН**

# СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА "ТАДЭВУШ РЭЙТАН"



*Грушаўская сядзіба. XIX ст. Малюнак Напалеона Орды.*

Больш за два стагоддзі таму Тадэвуш Рэйтан, пасол ад Навагрудскага ваяводства на варшаўскі сейм 1795 года, рашуча пратэставаў супраць трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай і тым сваім чынам заслужыў пашану беларусаў і палякаў. Імя нашага земляка праславілі паэт Адам Міцкевіч, мастак Ян Матэйка. Ды ўсё ж яно доўгі час замоўчвалася. З пэўных меркаванняў было засакрэчана месца пахавання нацыянальнага героя, бо Тадэвуш Рэйтан, як самагубца, не быў пахаваны на могілках. Распавядаюць, што ягоныя астанкі з лёхаў ляхавіцкага касцёла перазахавалі, пасля іх даследавала спецыяльная камісія. Падчас другой сусветнай вайны труна з верагоднымі астанкамі Тадэвуша Рэйтана знікла.

Звесткі пра жыццёвы шлях славутага земляка збірае ляхавіцкі краязнаўца, цясляр Міхась Турыянскі, які ўжо агаласіў вынікі сваіх росшукаў і даследаванняў у мясцовай газеце і ў часопісе "Мастацтва". Дзеля далейшага даследавання гісторыі роднага раёна, прапаганды ведаў пра знакамітых людзей краю ён стварыў і сёлета зарэгістраваў гістарычнае таварыства "Тадэвуш Рэйтан". Да 255-годдзя славутага земляка сябры таварыства падрыхтавалі свой першы фэст.

24 жніўня ў маляўнічым урочышчы непадалёк ад вёскі Грушаўка і былой сядзібы Рэйтанаў сабраліся ляхавіцкія энтузіясты з сем'ямі, госці, жыхары навакольных вёсак. Сябры таварыства прывезлі сюды выставу — паказаць людзям вынікі сваіх шматгадовых пошукаў: даўнія малюнкі, фотаздымкі Грушаўскіх сядзібы і палаца, капліцы-пахавальні, посуд, часткі рыцарскага рыштунку, вырабаў даўніх ляхавіцкіх рамеснікаў, партрэт Тадэвуша Рэйтана, намаляваны мастачкай-аматаркай Наталляй Турыянскай.



*Касцёл у Ляхавічах. Здымак пачатку XX ст.*

Фэст пачаўся на дзядзінцы капліцы, у якой калісь захоўваліся знойдзеныя ў безыменнай магіле чалавечыя косці, ідэнтыфікаваныя даваеннымі польскімі гісторыкамі як астанкі Тадэвуша Рэйтана. Пяць гадоў таму тут быў пастаўлены камень-валун з мемарыяльным знакам дзеля ўшанавання памяці славутага сына Навагрудскай зямлі. Пра ягонае жыццё і грамадзянскі подзвіг, пра неабходнасць аднавіць капліцу, сядзібу Рэйтанаў, пра намер стварыць у палацы, цяпер напаўразбураным, культурны асяродак гаварыў прысутным Міхась Турыянскі. На ўрачыстасці выступіў рэдактар-складальнік кнігі "Памяць. Ляхавіцкі раён", кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан, які перадаў таварыству кнігу ўспамінаў польскага гісторыка Кіневіча, пляменніка апошняга з Рэйтанаў, а таксама копіі дакументаў пра ўладароў Грушаўкі. Настаўнік Крывашынскай школы Леанід Чаранкевіч, таксама вядомы ў Ляхавіцкім раёне краязнаўца, шчыра вітаў сяброў таварыства — энтузіястаў захавання спадчыны, а да землякоў Рэйтана звярнуўся з просьбай актыўна дапамагаць аднаўляць будынкі сядзібы і парк.



*Барэльеф у гонар Тадэвуша Рэйтана ў ляхавіцкім касцёле. Здымак пачатку XX ст.*

Менавіта з такой мэтай — зацікавіць мясцовых жыхароў лёсам Грушаўскай сядзібы — і ладзілі фэст ляхавіцкія энтузіясты. Бо, як сказаў Міхась Турыянскі, можна ўжо цяпер шмат што аднавіць, але і адрэстаўраванае зноў паніштажаць.

На фэсце гучала і музыка, і песні, чыталіся вершы. Я быў падумаў, што сюды спецыяльна прывезлі вучняў ляхавіцкай музычнай школы. Але выявілася, што ігралі ды спявалі дзеці сяброў таварыства "Тадэвуш Рэйтан".

**Здзіслаў СІЦЬКА**

ЧАМУ Б НЕ?

# ГЛЯДЗІЦЕ МУТНЫМ ВОКАМ НА...
# ЛЕПШ ЗАЙДЗІЦЕ ДА ЮЗІКА

**... Колькі разоў на тыдні ці нават на дні мы вымаўляем тое, што толькі *наша*, што разумеюць выключна тыя, хто побач з намі — і ніхто больш? Даволі часта, і часцей гэта не прафесійны слэнг, а назвы месцаў, дзе даводзіцца бываць штодня, мянушкі магазінаў, кафэ, проста людных мясцін. Мы зразумелі гэта, калі развіталіся з нашым калегам, пісьменнікам і журналістам Навумам Цыпісам, чые артыкулы не аднойчы бачылі чытачы "Культуры". Цыпіс ад'язджаў у Германію — не ў камандзіроўку, а па справах асабістых і працяглых, таму развітанне было смутным, размова час ад часу збівалася як бы ўжо на ўспаміны пра Мінск. І тут высветлілася, што кожны, хто больш-менш доўга жыве ў сталіцы, ведае пра яе закуткі вельмі каларытныя дэталі, кожны — пра сваё "месца" ў вялікім горадзе. Так і нарадзіўся гэты матэрыял.**

*"ЛАСІНЫ"* — гастраном з такой мянушкай стаіць на вуліцы Каліноўскага, недалёка ад кінатэатра "Вільнюс". Горад прырастаў ускраінамі, і калісьці, не так даўно, гэты раён таксама быў краем горада, побач прасціраўся сасновы лес, які пазней быў адціснуты да мікрараёна "Зялёны Луг". І вось неяк зімовым адвячоркам да ззяючай вітрыны гастранома выйшаў жывы лось. Прыгледзеўся да чагосьці і, нядоўга думаючы, моцна баднуў шкло рогам. Вітрына, зразумела, разляцелася, спалоханы лось сігануў назад у сасоннік, а магазін з тае пары і дагэтуль празываецца "Ласіны"...

*"У ЮЗІКА"* — гастраном на праспекце Скарыны, насупраць "Беларусьфільма". Некалі, у той час, калі праспект насіў імя зусім іншага не скажу чалавека — героя гісторыі — і калі Улада непакоілася аб залішняй папулярнасці алкаголю сярод насельніцтва, у гэтым гастраноме працаваў грузчык з імем Юзэф. "Жывая вада" прадавалася ў строга азначаныя гадзіны ці з адзінаццаці да дзевятнаццаці, ці наогул толькі пасля другой апоўдні, ды яшчэ па нормах — толькі па адной бутэльцы ці не больш за дзве, — былі чэргі, у іх, апусціўшы галовы, стаялі хмурыя нервовыя мужчыны... Але хто ведаў Юзіка, мог не клапаціцца: за сімвалічную даплату той заўсёды быў рады дапамагчы прагнучым. Так і павялося — з цягам часу нават калі жанчыны з блізкага "сакрэтнага" электрамеханічнага завода, калі ішлі ў абед па закупы, то казалі: "Пайшлі да Юзіка!" Хаця хадзілі не па гарэлку і нават не на спатканне з тым Юзікам...

*"ПЯНЬКІ"*. Гэта піўная на вуліцы Валгаградскай, недалёка ад скрыжавання з вул. Кедышкі, звычайны павільён з тонкімі сценамі. У часы сацыялізму тут стаялі піўныя аўтаматы, дзе куфаль піва можна было атрымаць за дваццаць капеек, а за дзесяць, натуральна — палову куфля. У гэтым і была зваба: сюды прыходзілі нават тыя, у каго на цэлы куфаль грошай не хапала, бралі свае двесце грамаў піва і пры іх стаялі гадзінамі, узваліўшыся на высокія сталы на адной ножцы (якія былі, дарэчы, звычайнай мэбляй у такіх жа піўных і вакзальных буфетах). Сталы, зразумела, не вытрымлівалі, ламаліся. Вось тады нехта і прыдумаў — зрабіць сталы з вялікіх, у паўтара-два абхваты, чурбакоў з перарослых дрэваў, што спільваліся непадалёк... Цяпер іх ужо там няма, а назва засталася.

*"ПНУХА"*. Насупраць універсітэта, за Чырвоным касцёлам, калі той яшчэ быў Домам кіно, на першым паверсе будынка, дзе сталоўка і рэстаран "Папараць-кветка", была піўная. Інтэлектуалы-студэнты, перабраўшы, відаць, дзесятак мянушак, прыпыніліся на абрэвіятуры ПНУ — "Піўная Насупраць Універсітэта". З часам акадэмічная мянушка ператварылася проста ў "Пнуху". І колькі б разоў гарадскія ўлады ні перабудоўвалі цесную забягалаўку, якія б назвы ні вывешвалі над уваходам, яна ўсё роўна застаецца "Пнухай" — следства пераемнасці пакаленняў студэнтаў, асноўнага тут кантынгенту. Хаця некаторыя сёння нават і не ведаюць этымалогіі назвы...

*"ПАМІДОР"* — гэтак сярод аматараў піва называецца піўнуха, што месціцца ля кінатэатра "Перамога". Наведваецца сюды публіка даволі разнастайная — ад слесараў да паэтаў. Апошнія часам голасна чытаюць тут свае вершы, што чамусьці нікога не палохае і не здзіўляе. І клічуць гэтую піўнуху "Памідорам" не таму, што тут да піва падаюць салёненькія памідорчыкі, і не таму, што ў кагосьці імі кідаюцца. Проста вельмі доўгі час утульнасць дадзенай установы стваралі вялікія чырвоныя фіранкі, якія, на жаль, цяпер замянілі белыя. Але назва замацавалася — "Памідор". І таму, калі нехта кажа: "Хадзем да Памідора", гэта яшчэ не значыць, што ён начытаўся "Чыпаліна" Джані Радары ці яму захацелася салаты.

*"ТРУБА"* — трубы бываюць вадастокавыя, музычныя... А на праспекце Францыска Скарыны ля ГУМа ёсць труба, якая збірае тусовачную моладзь. Гэта падземны пераход. Зазвычай сярод менскай моладзі гэтак і кажуць: "Сустрэнемся ў трубе". Таму вядомыя песенныя словы "Труба кліча..." маюць цяпер зусім іншы сакральны сэнс. Ходзяць чуткі, што ў Маскве нібыта таксама ёсць падобны трубапераход. Але беларускія панкі на гэта кажуць: "Наша труба зроблена па рэцэпце Паганіні".

*"ПАМЫЙКА"* — бар на рагу праспекта Ф.Скарыны і вуліцы Леніна ў цокальным памяшканні. Цяпер на першым паверсе будынка месціцца амерыканскі рэстаран "Макдональдс". Трэба адзначыць, што ў 70-80-х гадах заўзятымі кліентамі славутага бара былі "фарцоўшчыкі" і "валютчыкі", студэнты і беспрацоўныя, таму і ягоная назва "Памыйка" літаральна адлюстроўвала і дапаўняла сацыяльнае асяроддзе сацыялістычнага ладу. Акрамя кактэйля са слівай у бакале там можна было набыць ксераксное выданне твораў Салжаніцына і арыгінальныя амерыканскія джынсы фірмы "Levis", "Wrangler". Прычым літаратурны твор каштаваў 10 рублёў, штаны — дзве стыпендыі, а кактэйль — 1 рубель 67 капеек. Даляр меў вагу ў "Памыйцы" ў савецкі час — 1 рубель 30 капеек, а не 67 капеек, як пісала ў той час газета "Известия".

*"МУТНАЕ ВОКА"* — рэстаран, які аблюбавалі тэатралы ў памяшканні Дома мастацтваў. Фасад ягоны "глядзіць" на праспект Ф.Скарыны, а тыл "чапляе" будынкі Акружнога дома афіцэраў.

У сярэдзіне 80-х гг., калі рамонт кафэ "Кефір", што месціўся ў Доме літаратараў, зацягнуўся, сюды, у "Мутнае вока" шчыльнымі радамі перайшоў і літаратурны бамонд краіны. Месца хапала ўсім. Шмат творчых сумесных праектаў чулі сталы і сцены першага паверха Дома мастацтваў. Кожная рэстарацыя павінна мець свой козыр. Быў ён і ў "Мутнага вока" — афіцыянтка Галіна, выказы якой зрабіліся гістарычнымі. Напачатку вечара яна заўсёды прывячала ўчарашніх кліентаў (дарэчы, пастаянства — таксама козыр "М.в."): "Ба! Вы і сёння прыйшлі?! Іншыя людзі памерлі б яшчэ ўчора!" Сапраўды, там не было лішніх людзей. Усе — пэўныя. А апагеем сапраўднай рэстараннай дэмакратыі быў агульны тост "за мастацтва!" мэтра сталічнай сцэны і студэнтаў тэатральнага факультэта. У святочныя дні публіка заседжвалася. І толькі пад раніцу знакамітая стомленая Галя выключала святло пад рытуальны заклік: "Усе ў сад!"

*"ФЭЛЯ"*. У тыя даўнія часы, калі на стадыёне "Дынама" яшчэ не было "Дынама", то-бок аднайменнага рэчавага рынку, — вакол вялікага келіха з трыбунамі і сектарамі былі раскінутыя пляцовачкі для міні-футбола. Там збіраліся аматары паганяць скуранога калабка. Нават праходзілі чэмпіянаты Мінска па двор-футболу. Пальба па вераб'ях і па сетках брамак, звараных з жалезных труб, вялася кругласезонна. І кругласезонна пасля гульні хацелася піць. І часцяком спортаматары суцішалі сваю смагу ў склёпіку, які ўсе называлі "Фэляй". Да барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, распачатай Міхаілам Гарбачовым, у ім прадавалася піва, пасля толькі квас. Цяпер у гэным склёпіку можна і віна пакаштаваць. А "Фэляй" яго празвалі вось з якой прычыны: склёпік знаходзіцца за гастраномам, які мае таксама адмысловую назву — "пад гадзіннікам", гэта насупраць будынка КДБ, ён вельмі маленькі, і ў добрае надвор'е піўцы выносілі куфлі ў скверык насупраць гэтага жоўтага гмаху, і няспешна пацягвалі пенны напой на лаўках каля грознай фігуры жалезнага Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. Народ не любіць доўгія імёны...

*"ПАНІКА"*. Народныя скарачэнні, бывае, да непазнавальнасці зашыфроўваюць сэнс "базіснага", пачатковага слова. А калі тут яшчэ прымешваюцца асацыятыўныя сувязі, то ўвогуле ніколі не здагадаешся. Наўрад ці госць нашай сталіцы, шпацыруючы па тэатральным скверы, што побач з Нацыянальным Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы, скеміць, чаму гэты прыгожы куточак, дзе час цячэ размерана, ціха, у народзе клічуць "Панікай". Тут векавыя таполі, лаўкі ў цяністых прысадах, дзе збіраюцца маладыя людзі, абмяркоўваюць свае праблемы, п'юць, як прынята, самы модны напой (піва), тут улетку асвяжае паветра славуты фантан "Хлопчык з лебедзем", аналаг якога маецца нават у Варшаве. Дык вось, дзякуючы гэтаму фантану, дый яшчэ Ільфу і Пятрову, узнікла ў Мінску "Паніка". Дзень, гадзіна і хвіліна невядомыя. Персона, вінаватая ў гэтым, таксама застаецца інкогніта і нон-грата. Вядома, што то быў вельмі дасціпны чалавек. Ён, паглядзеўшы на фантан, раптам вымавіў: "Дык гэта ж Панікоўскі з гусем, толькі ў дзяцінстве!"

Што, прагледзеўся лагічны ланцужок? "Хлопчык з лебедзем" — "Панікоўскі з гусем" — "Панікоўскі" — "Панікоўка" — "Паніка".

*ПРЫ ЧЫМ ТУТ АСЁЛ?* Як бачна, назвы-мянушкі месцаў горада (пітных і не зусім) паходзяць з гістарычных, жыццёвых і літаратурных алюзій і асацыяцый. А будынкі, збольшага, атрымліваюць свае назвы паводле сваіх вонкавых абрысаў. Я ведаю ў Менску дзве "Кітайскія сцяны" — адна жылы дом на вуліцы Танкавай, другая — на Старажоўскай, таксама жылы дом. Празваны яны гэтак таму, што вельмі ўжо даўжэзныя. Але з гэткім правам "Кітайскай сцяной" можна называць любы расцягнуты на ўсю вуліцу дом. Таксама ў нашым беларускім мегаполісе ёсць два гастраномы, якія называюць "Падковамі". Адзін каля вакзала, другі каля кінатэатра "Мір". Абедзве крамы атрымалі свае назвы таму, што будовай нагадваюць вялізныя падковы.

Існуюць больш арыгінальны назвы. Не паспелі пабудаваць Палац рэспублікі на Цэнтральнай плошчы, як яго ахрысцілі ў народзе "саркафагам", бо каля дзесяці гадоў ён быў толькі цёмна-шэрай бетоннай каробкай, якая нагадвала кадры хронікі пра Чарнобыльскую АЭС.

У "Серабранцы" на скрыжаванні вуліцы Пляханава і праспекта Ракасоўскага нядаўна пабудавалі хмарачос мікрараённага значэння. Высотны дом. Але не паспелі яго здаць жыльцам, як яго ўжо дзенідзе называюць "Пізанскай вежай". Чаму? Едучы ў тралейбусе па праспекце Ракасоўскага, мой сябра сказаў: "Уважліва глядзі на гэты дом і сачы за іншымі, ніжэйшымі". Сапраўды, дом нейкі крывы, нахіляецца, падае. Сапраўдная мінская Пізанская вежа.

А каму з жыхароў нашай сталіцы невядома мянушка бірузова-зеленаватага, выгнутага лацінскай літарай "S", даволі прэстыжнага жылога дома каля Камароўскага рынку? Якая яна? Правільна. "Долар". Ці "Даляр". Час, безумоўна, на месцы не стаіць, цяпер можна пачуць і "Бакс".

Вельмі яскравай і арыгінальнай можна лічыць мянушку, якую атрымалі адразу два будынкі-двайняткі, якія калісь належалі Акадэміі Навук Беларусі, што па вуліцах Сурганава і Скарыны. Высоткі, сіметрычна размешчаныя адна да адной, нейкаму выскаляку, а можа і каверзнаму навукоўцу, нагадалі "вушы асла". Так і стаяць яны па жыцці "Аслінымі Вушамі". Застаецца толькі нявырашаным пытанне, чаму вушы менавіта асла, а не, напрыклад, каня ці доберман-пінчэра. Прапануем версію — гэта, каб акадэмікі не вельмі задаваліся. А ўвогуле, нічога кашчуннага ў гэтым няма, сімвал дэмакратычнай партыі Амерыкі таксама асёл. Не трэба браць мянушкі да галавы.

**Зразумела, аўтары не здолелі прывесці ўсе "народныя" назвы і ўсе іхнія тлумачэнні, што датычацца Мінска. Нельга ахапіць неахопнае — але трэба да гэтага імкнуцца! Таму звяртаемся да чытачоў: падтрымайце пачынанне. Раскажыце пра цікавыя назвы і звязаныя з імі гісторыі ў сваім горадзе ці мястэчку. Гэта ж, напэўна, і ёсць крупіцы радзімы, калі іх успамінаюць перад ад'ездам. Чаму б не?**

**Жанна ВАСАНСКАЯ**
**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Ігар КЛОКАЎ**
**Серж МІНСКЕВІЧ**

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Арсен ВАНІЦКІ**, **Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Валерый ГЕДРОЙЦ**, **Уладзімір ПЛЕП**, **Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ**, **Сяргей ЗАКОННІКАЎ**, **Вольга ІПАТАВА** (рэдактар аддзела), **Ігар КЛОКАЎ** (рэдактар аддзела), **Анатоль КУДРАВЕЦ**, **Мікола КУПАВА**, **Алена ПІСЬМЯНКОВА** (рэдактар аддзела), **Міхаіл ПТАШУК**, **Алег ТРУСАЎ**, **Юрый ЦВЯТКОЎ**, **Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Міхась БАШУРА**, **Жанна ВАСАНСКАЯ**, **Барыс КРЭПАК**
Спецкарэспандэнты: **Зміцер ВІШНЁЎ**, **Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3480.

Падпісана ў свет 18.09.97. у 15.30.

Замова 5548

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.